PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 39 (2107) Год XLI Беласток 29 верасня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

## Песні суседзяў

У нядзелю 15 верасня ў Гродзенскім драматычным тэатры прайшоў чацвёрты Фестываль польскай і беларускай песні Беласток—Гродна. Першую такую мастацкую сустрэчу беларускай меншасці з Польшчы і польскай з Беларусі сарганізавала ў 1993 годзе ў беластоцкім амфітэатры Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Запрасіла яно да супрацоўніцтва Саюз палякаў у Беларусі і з тае пары мерапрыемства ладзіцца наперамен: адзін год у Беластоку, другі — у Гродне. Фестывалю спадарожнічае навуковая канферэнцыя „Шлях да ўзаемнасці", на якой свае дасягненні прэзентуюць даследчыкі польска-беларускіх культурных сувязей. Сёлета, па прычыне фінансавых цяжкасцей, арганізатары ад канферэнцыі адмовіліся.

Цяжка было ў Гродне перад фестывалем штосьці-небудзь пра яго даведацца. На вуліцах не было афішаў, у тэатры — вакацыйны сезон, а ў сядзібе Саюза палякаў — адно не валодаючыя адпаведнай інфармацыяй ветэраны. Ніхто не мог таксама пахваліцца чымсьці такім, як праграма. Слабая інфармацыя тым больш дзіўная, што суарганізатарамі канцэрта былі Беларускі фонд культуры і Аддзел культуры Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта.

Нягледзячы на гэта, зала тэатра на семсот месцаў была поўная. Сярод публікі звяртала ўвагу вялікая колькасць дзяцей і моладзі — галоўным чынам вучняў польскай сярэдняй школы ў Гродне.

Адкрываючы канцэрт, старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства **Янка Сычэўскі** сказаў:

— Так вырашылі Бог і гісторыя, што палякі і беларусы жывуць побач адзін аднаго, на Беласточчыне і Гарадзеншчыне. Мы хочам, каб кожны паляк ганарыўся, што яго сусед — беларус, а беларус, што жыве разам з палякам.

Намеснік старшыні Саюза палякаў у Беларусі **Тадэвуш Малевіч** падкрэсліваў, што нічога так не яднае народаў як песня.

— Я рады, — гаварыў ён, — што, дзякуючы гэтай артыстычнай падзеі ў Гродне, мы маем нагоду яшчэ лепш пазнаць культуру нашых бліжэйшых суседзяў.

У канцэрце прымалі ўдзел наступныя калектывы з Беласточчыны: хор Беластоцкага аддзела БГКТ, „Васілёчкі" з Бельска, „Цаглінкі" з Ляўкова, „Хлопцы-рыбалоўцы" з Рыбалаў і калектыў з Гарадка. Саюз палякаў у Беларусі прадстаўлялі: хор „Echo Grodna", вакальна-танцавальны калектыў „Lechici", хоры з Поразава і Свіслачы ды дзіцячы калектыў з гродзенскай польскай школы.

Розніца між дзвюма меншасцямі была прыкметная ва ўборах спевакоў, таксама як і ў рэпертуары. Нашы калектывы — што мы добра ведаем — выступаюць у народным адзенні і спяваюць фальклорныя песні, арыгінальныя або, найчасцей, апрацаваныя. Польскія калектывы з Беларусі маюць пераважна класічную вопратку: жанчыны — доўгія спадніцы і белыя кофты, мужчыны — у пінжаках, з бабачкамі пад шыяй. У іх рэпертуары — нацыянальна-патрыятычныя творы, галоўны герой якіх — улан. Паяўляецца таксама рэлігійны матыў. Пры гэтай усёй, так сказаць, вонкавай „панскасці" — тыпова ўсходняя, аднак, пявучасць.

Хаця некаторыя маладыя гледачы пакінулі залу ў час канцэрта, дэманструючы гэтым самым, што ў іх крыху іншы музычны густ, тым не менш публіка была задаволена. Праяўлялася гэта ў бурных воплесках усім выканаўцам.

Пятая мастацкая прэзентацыя песні беларускай меншасці з Польшчы і польскай з Беларусі — праз году ў Беластоку. Як сказаў мне ў аўтобусе **Кастусь Майсеня**, „лепш разам спяваць, чымсьці падсаджваць адзін аднаму шпількі".

**Мікола Ваўранюк**
*Фота Сяргея Грынявіцкага*


*Дырэктар Аддзела культуры Гродзенскага аблвыканкама Вячаслаў Брыкаў (справа), намеснік старшыні Саюза палякаў у Беларусі Тадэвуш Малевіч (у цэнтры) і кіраўнік калектыву „Хлопцы-рыбалоўцы" Янка Бурнос узнагароджаны пасля канцэрта кветкамі.*


*Чакаючы ў Кузніцы мытнікаў, беластоцкія артысты не марнавалі часу.*


*Да танца падыгрываў Сцяпан Копа.*

# Мы прачыталі

*Obecne emerytury wypłacane są z dzisiejszych zarobków tych, którzy pracują. Ludzi w wieku emerytalnym systematycznie przybywa, pracujących jest coraz mniej. Przeciętny Polak, umierając wkrótce po przejściu na emeryturę, oddaje państwu ostatnią przysługę. Każdy rząd mówi o konieczności funduszu ubezpieczeń, i każdy odwleka tę operację, aby nie przed wyborami. Emeryci, z racji swojej liczebności, są najbardziej wpływową grupą społeczną w Polsce, ich głosy decydują kto zasiądzie w Sejmie i kto będzie rządził. Starość trwa dłużej niż kadencja władzy, dlatego nikt nie chce niczego reformować. Kosztem rosnących podatków rozwiązuje się problem emerytów, lecz system ten prowadzi do katastrofy finansów.*

*Polityka, nr 36*

* * *

*Поўная залежнасць Беларускай праваслаўнай царквы ад Маскоўскага патрыярхату і цесныя сувязі каталіцкай царквы з Польшчай уносяць раскол у беларускае грамадства, перашкаджаючы яго нацыянальнай інтэграцыі.*

*Беларускі Дайджэст, н-р 9*

На нашу думку, найбольш магутным веравызнаннем у Беларусі з'яўляецца секта „праваслаўных атэістаў", якой вернікамі з'яўляюцца члены найвышэйшых улад краіны і ўсе „вертыкальшчыкі".

* * *

*Jeden z białostockich policjantów został pogryziony przez nietrzeźwego mężczyznę. Przedmiotem ataku była łydka funkcjonariusza.*

*Kurier Poranny, nr 200*

* * *

*Усе глядзелі рэпартаж па інаўгурацыі прэзідэнта Расіі. Уважліва-ганарлівыя твары прэзідэнтаў краін СНД, зацікаўленыя і крыху ніякаватыя позіркі іхніх жонак. І — пустое крэсла побач з кіраўніком Беларусі. Першая Лэдзі Беларусі ў гэты час, напэўна, даіла карову Мілку. Мы ўжо да ўсяго прызвычаіліся і не рэагуем на чарговы напамін аб маральным дзікунстве нашага „ўсенароднаабранага".*

*Свабода, н-р 60*

* * *

*Жонка прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі Галіна Радзівонаўна нядаўна прадала сваю любімую — карову Мілку. Два гады таму, падчас прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, Лукашэнка купіў гэтую рагулю ў калгасе. Аднак за два гады Аляксандр Рыгоравіч не накасіў Мілцы нават і меха канюшыны. Усе клопаты па доглядзе за жывёлай ляглі на жаночыя плечы Галіны Радзівонаўны і мясцовага калгаса, які пастаянна забяспечваў карову фуражом. Прэзідэнцкую Мілку за 4,5 млн. рублёў купіў сусед Галіны Радзівонаўны.*

*Свабода, н-р 63*

* * *

*Міністэрствам юстыцыі РБ зарэгістраваны юнацкі ваенна-патрыятычны клуб „Коловрат". Пад гэтай шыльдай схавалася беларуская філія „Русского Национального Единства" — расійскай фашысцкай арганізацыі. Хуткай рэгістрацыі расійскіх фашыстаў дапамаглі іх сувязі з высокапастаўленымі дзяржаўнымі чыноўнікамі Рэспублікі Беларусь.*

*Наша слова, н-р 33*

* * *

*Dziękuję mieszkańcom Białegostoku za wierność wartościom katolickim i narodowym. Odzwierciedlają to wyniki wyborów oraz akcja przeciwko pornografii* — сказаў лідэр „Салідарнасці" Мар'ян Кшаклеўскі.

*Kurier Poranny, nr 209*

Голыя с... ў часопісах, як фактары пагражаючыя нацыянальнай культуры палякаў, заўважаюцца перш за ўсё маладымі каталікамі, якія ў рамках змагання з парнаграфіяй выкупілі амаль усе „świerszczyki" ў Беластоку і схавалі праўдападобна пад падушкі. Будуць з нянавісцю глядзець іх, ідучы на адпачынак. Некаторыя могуць нават забыцца пра навукі „дабрадзеяў" і заняцца чым іншым. Жах!

* * *

*Katecheci traktują swoje zadanie jak misjonarze wśród dzikich plemion. Czyli wszelkie niekonwencjonalne zachowania i pytania trzeba wykorzenić. Zamiast rozmowy proponują niewzruszone prawdy, zapominając, że nawet do najprawdziwszej prawdy trzeba umieć przekonać. Katecheci są najczęściej sztywni, dużo krzyczą, tyranizują, biją dziennikiem po głowie, mówią cicho jakby od niechcenia, sprawiają wrażenie znudzonych zamiast odpowiadać na pytania, zbywają je. Kiedy na religii padają pytania o seks przedmałżeński, do których siedemnastoletni chrześcijanin nie powinien mieć wątpliwości, katecheci mówią o wszystkim i o niczym, a pożniej kończą rozmowę, po której pozostaje tylko niesmak. Jeden z uczniów opisuje lekcje religii z księdzem, który już od progu sali katechetycznej krzyczy: „Całowanie się jest grzechem" co może wywołać tylko jedną reakcję wśród słuchaczy — trzymać się na odległość w miarę bezpieczną, tj. nie zagrażającą utracie zdrowia psychicznego.*

*Kurier Poranny, nr 210*

* * *

*Dziedzictwo socjalizmu będzie się za nami wlokło jeszcze wiele lat. W sferze materialnej, będzie straszyć tandetą i szpetotą tego co pobudował, w sferze mentalnej będą się budzić wpojone przezeń odruchy. Ale we wspomnieniach będzie piękniеć.*

*Gazeta Wyborcza, nr 213*

# З мінулага тыдня

**Польская экуменічная рада**, якая гуртуе сем некаталіцкіх хрысціянскіх цэркваў, у тым ліку і Польскую аўтакефальную праваслаўную царкву, заключыла з кіраўніцтвам Польскага тэлебачання пагадненне аб супрацоўніцтве. Падпісаны дакумент прадугледжвае трансляцыі важнейшых набажэнстваў чатыры разы ў год і старонку з паведамленнямі Рады ў тэлегазеце.

**Беластоцкі тэлецэнтр** праўдападобна восенню будучага года пачне высылаць у тэлеэфір уласныя перадачы і сваім абсягам абыме Беластоцкае, Ломжынскае і Сувальскае ваяводствы. Дырэктар дванаццатага і апошняга ў краіне рэгіянальнага тэлецэнтра **Казімеж Пуцілоўскі** перадачы для нацыянальных меншасцей намерваецца эмітаваць у стэрэафанічнай двухканалавай моўнай версіі: па-польску і на мове нацыянальнай меншасці. Да гэтай пары будуць яны рыхтавацца на мове меншасці, але з польскамоўнымі цітрамі.

**Цэнтр турыстычнай і культурнай інфармацыі** імя Людвіка Заменгафа адкрыўся нядаўна ў Беластоку. Кожны, хто захоча адпачыць на Беласточчыне, атрымае ў ім бясплатную інфармацыю аб помніках, культурных мерапрыемствах і турысцкай базе, а жыхары Беластока — аб магчымасцях адпачынку ў любым рэгіёне краіны. Цэнтр працуе ў сядзібе Фонду імя Заменгафа, па вуліцы Пенкнай 3 у Беластоку.

**У Белавежы** адбыўся злёт скаўтаў Беласточчыны. На працягу трох дзён 220 гарцэраў вандравалі па першабытнай пушчы, прымалі ўдзел у акцыі „Прыбіранне свету '96", спаборнічалі ў бегах, займаліся мастацтвам і прыродазнаўствам, выконвалі заданні праграмы „Мае Айчыны". Мэта злёту — інтэграцыя беластоцкага скаўтынгу і папулярызацыя дасягненняў гэтай арганізацыі.

**У Прыродазнаўчым музеі ў Белавежы** прэзентавалася выстава са 158 экземпляраў ядомых, неядомых і атрутных грыбоў. У ходзе выстаўкі экспанаты мяняліся некалькі разоў, каб стварыць наведвальнікам магчымасць аглядаць толькі свежыя экземпляры пушчанскага багацця. У Белавежскай пушчы можна знайсці дзве тысячы гатункаў грыбоў.

**Амаль 50 тысяч гектараў бульбы** трэба ўбраць з палёў Беластоцкага ваяводства. Дажджлівае надвор'е замаруджвае палявыя работы, выклікае таксама выпадкі гніцця бульбы. Спецыялісты мяркуюць, што сёлетні плён дасягне 220 цэнтнераў з гектара.

**Нелегальныя плантацыі маку** ліквідуюцца паліцыяй у ходзе спецыяльнай акцыі. Да гэтай пары ў Беластоцкім ваяводстве знішчана некалькі соцень макавых палеткаў, а іх уласнікі (пераважна старэйшыя людзі) тлумачыліся ахоўнікам правапарадку, што яны вырошчваюць мак выключна на свае хатнія патрэбы. Найбольш нелегальных плантацый паліцыянты выявілі ў раёне Саколкі — 73 палеткі плошчаю 2 500 кв. м. Выяўлены макавыя плантацыі знішчаюцца камісійна.

**Шэсць салдат** атрымалі лёгкія раненні, калі ў калону, якая маршыравала па вуліцы Цыялкоўскага ў Беластоку, уехала машына маркі „Міцубісі". 21-гадовы шафёр іншамаркі быў п'яны.

**Дзесяць грамадзян Украіны і Беларусі**, якія падазраваюцца ў нападах на дарогах усёй краіны на грамадзян Садружнасці Незалежных Дзяржаў, вяртаючыхся транзітам з Заходняй Еўропы на радзіму, затрымалі падчас супольнай акцыі паліцыянты з Плоцка і Скярневіцаў. Паліцыя адабрала ў злачынцаў пяць аўтамабіляў і некалькі штук агнястрэльнай зброі.

# Весткі з Беларусі

**Лукашэнка хадайнічаў у Маскве**

„7 верасня адбыўся кароткатэрміновы дзелавы візіт прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў Маскву, — паведаміла Менскае радыё. — Кіраўнік дзяржавы сустрэўся са старшынёй урада Расейскай Федэрацыі Віктарам Чарнамырдзіным, намеснікам старшыні ўрада Аляксандрам Завярухам, сакратаром Савета бяспекі Аляксандрам Лебедзем, міністрам замежных спраў Яўгенам Прымаковым і міністрам абароны Ігарам Радзівонавым". Аднак гэтага не пацвердзілі прэс-службы прэзідэнта і прэм'ер-міністра Расеі. Толькі прэс-служба Савета бяспекі заявіла, што Лукашэнка сустракаўся з Лебедзем і міністрам абароны, каб абмеркваваць пытанне аб вывадзе двух ракетных палкоў з рэспублікі.

**Лебедзь прызямліўся ў Менску**

Сакратар Савета бяспекі Расеі Аляксандр Лебедзь 13 верасня наведаў Беларусь. Паводле афіцыйных паведамленняў, абмяркоўваў ён у сталіцы з сакратаром Савета бяспекі Беларусі Віктарам Шэйманам некаторыя аспекты супрацьпаветранай абароны. Затым у Віскулях адбылася сустрэча госця з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам за зачыненымі дзвярыма. Незалежныя наглядальнікі мяркуюць, што візіт Лебедзя быў выкліканы эскалацыяй процістаяння паміж парламентам і прэзідэнтам.

**Шарэцкі перасцерагае**

11 верасня ў газеце „Народная воля" з'явіўся поўны тэкст звароту старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага да народа Беларусі. Пачынаецца ён словамі: „Паважаныя суайчыннікі! Наша краіна стаіць на мяжы фашысцкай дыктатуры". Пасля некалькіх абзацаў спікер парламента згадвае скандальна вядомае інтэрв'ю прэзідэнта Беларусі нямецкай газеце „Гандэльсблат" у лістападзе мінулага года, у якім Аляксандр Лукашэнка прызнаўся, што нямецкі парадак пры Гітлеры „адпавядае нашаму разуменню прэзідэнцкай рэспублікі і ролі ў ёй прэзідэнта". Вядома, можна было б аднесці захапленне фюрэрам наконт маладосці прэзідэнта, піша Шарэцкі, але ягоныя канкрэтныя крокі па ўзмацненні асабістай улады не дазваляюць зрабіць гэтага. У прыватнасці спікер адзначае службу бяспекі прэзідэнта, якая надзелена правам без санкцыі пракурора праводзіць вобыскі ў кожнага грамадзяніна.

**Ціхіня падслухоўваецца**

Старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня заявіў, што ягоныя прыватныя і службовыя тэлефонныя размовы падслухоўваюцца. Апрача таго ён валодае звесткамі, што прадпрымаюцца спробы сабраць матэрыялы, якія б кампраметавалі яго і ягоную сям'ю.

**Захаранка ладзіць кангрэс**

Канечным працягам круглага стала палітычных партый сталася ініцыятыва правядзення 26 кастрычніка усебеларускага кангрэсу ў абарону канстытуцыі і супраць дыктатуры. Ініцыятыўную групу ўзначаліў экс-міністр унутраных спраў Юрый Захаранка.

**Прафсаюзы хочуць мірыць**

Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі заклапочана ўзмацненнем процістаяння ў грамадстве, выкліканым намерам правядзення рэспубліканскага рэферэндуму. У звароце, накіраваным кіраўніку дзяржавы Аляксандру Лукашэнку і старшыні Вярхоўнага Савета Сямёну Шарэцкаму, ФПБ прапануе стварыць пагаджальную камісію з удзелам прадстаўнікоў Адміністрацыі Прэзідэнта, парламента, асноўных палітычных партый і грамадскіх рухаў. Прафсаюзы перакананы, што такая форма ўзаемадзеяння дапаможа ўзгадніць інтарэсы і пазіцыі бакоў, выпрацаваць узаемапрымальны варыянт змяненняў і дапаўненняў у канстытуцыю Беларусі.

**Выстава Дзіны Шымук**

У Нацыянальным музеі гісторыі культуры Беларусі адкрылася выстава самабытнай мастачкі Дзіны Шымук. Яна ставарае свае творы, працуючы з прыродным матэрыялам — засушанымі кветкамі, пялёсткамі, лісцем. Таму від мастацтва, якім яна займаецца, называецца фларыстыкай. На выстаўцы сабраны сто пяцьдзесят лепшых твораў мастачкі за дзесяцігадовы перыяд. У адрозненне ад многіх сваіх калегаў, Дзіна Шымук лічыць за лепшае ў сваіх работах не рэканструяваць прыроду, але пры дапамозе засушаных раслін маляваць людзей, жывёлін, пейзажы і нацюрморты.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Ці самаўрады дапамагаюць школам, у якіх навучаецца беларуская мова?**
- **Як быць гаспадаром культуры?..**
- **Сто відаў беларуса** – ва ўяўленні Сцяпана Абуха.

# Наракаць нельга

Сёння ўсё ёсць добра і выгадна. Дэмакратыя ёсць. Усё ёсць у крамах — што толькі хочаш, тое і купіш. Можаш апранацца прыгожа і дорага, а калі замала ў цябе грошай, пойдзеш у крамку з „заходнімі" апранахамі, і купіш сабе анучы на кілаграмы, часам таксама модныя і прыгожыя. У тых крамках поўна пакупнікоў — мужчын, жанчын, моладзі, вучоных і малаадукаваных, зусім бедных і нават такіх, якія маглі б купіць якую штуку раз ці два разы ў месяц у „звычайнай" краме. Перабіраюць, грабуцца, быццам куры ў пяску, але не маюць выхаду — трэба так планаваць, каб голым не хадзіць, але і заплаціць за кватэру, газ, электрычнасць, пракарміцца самому і накарміць сям'ю, купіць падручнікі дзецям... А ў крамах, папраўдзе, таксама больш усё для вока, бо сапраўды выбраць добрае цяжка, а і аглядацца трэба не толькі на фірму, а нават на тэрмін прыдатнасці спажыўцы тавару, бо шмат дзе абдураваюць чалавека. І чаго ж тут табе, чалавеча, наракаць, калі ўсяго ўсюды дастатак?

Але ці ўсе могуць жыць як людзі? Я гляджу на гэта як пенсіянерка, гараджанка, з вельмі невялікай пенсіяй. А калі чалавек беспрацоўны, а на карку ў яго сям'я? Чаму чалавек не можа дазволіць сабе з'есці што смачнае, ано толькі бульбу з гуркам і малако, ды яшчэ нейкую пахлёбку? Так можа карміцца свіння, але і свінні не даюцца ў смак гуркі. Ці не будзе хвароб, калі чалавек аслаблены, да таго ж ад пастаяннага жыцця ў стрэсе псуюцца нервы і сэрца. Трэба думаць не толькі ў вярхах пра палітыку. Я не сплю па начах, не таму, што *мэнчыць* мяне глабальнае становішча нашае краіны, забруджанае і ўвесь час гарачае ад войнаў зямлі, але перш за ўсё нэндза простага чалавека. І аж дзівуюся, які ён моцны, як усё гэта вытрымоўвае. Цуд, што яшчэ за паветра не трэба плаціць, дарэчы, каб яно было хоць чыстае.

Найбольшая крыўда старому вясковаму чалавеку. Людзей, якія ад маленства працавалі на гаспадарках, якія пасля вайны здавалі дзяржаве малако, масла, воўну, бо гэта быў абавязак. Часам не хапала сабе што з'есці, а аддаваў за марныя грошы. А да таго ж трэба было будавацца, бо вёскі папаліў немец. Потым была сям'я, трэба было дарабляць яшчэ на *жандовай* нейкай працы, і тую гаспадарку абрабляць — работы хапала ад рання да ночы. А цяпер за свае жыццё дарабіўся ты „рэнты", і трактуюць цябе, быццам нейкую ласку табе робяць, быццам бы ты аб'ядаў дзяржаву. А ты глядзіш на сваіх унукаў ці праўнукаў, якія вось павывучваліся, і працы для іх няма, хоць розум і сілу маюць, і трэба шмат што зрабіць у краіне. Калісь касілі сярпом і касою, канём аралі, а сёння кожны скажа: то ж відна: тэхніка вялікая, камп'ютэры, вучоных многа, і чаго ж тут наракаць?! А я бачу і адчуваю, што **мужык** далей ёсць прыніжаны. Быў калісь нявольнікам, ёсць ім і сёння.

„Паноў" усё больш, а мужыкоў усё менш. А як іх сёння мае быць больш, калі не размнажаюцца!? Бо ж кавалераў у кожнай вёсцы мэндаль, а дзеўкі ні аднае. Вядома, нараджаюцца і дзяўчаткі ў вёсцы, хоць іх, як і хлопцаў, штораз менш, але як толькі крыльцы якой вырастуць, адразу пырхае ў горад, і пасля не хоча вяртацца. Будзе сядзець у горадзе галодная і чакаць князя, які павязе яе ў лепшы свет. А бацькава гаспадарка будзе ляжаць аблогай, бо старыя ўжо сілы не маюць, а калі рэшткі сілы ўложаць у тую гаспадарку, то тое, што атрымаюць, не будзе варта ўкладу працы.

Хлопцы, што асталіся на гаспадарках, крыва на *ўладзу* ўглядаюцца, кажуць, што *не аплачваецца* сядзець на гаспадарцы, хоць ты жывым у зямлю хавайся. „Эмэрытальнае" плаці, якоесь яшчэ „быковае", смяюцца. Машыны дарагія, штучнае ўгнаенне таксама, а свой тавар збываеш за паўцаны, як хоць бы мяса, малако. Вазьмі пазыку ў банку, то за працэнты і рэшту аддасі з таго, што ў цябе ёсць. Адзін мой знаёмы гаспадар, яшчэ малады, вельмі стараўся, а і бацькі дапамагалі. Машыны здабыў, калі яшчэ было цяжка іх дастаць. Касіў людзям, араў, грошы зарабляў, а быў ён вельмі працавіты, і работа гарэла яму ў руках. Усё было яму мала. А цяпер ад тае натугі нагу яму адняло, ляжыць у бальніцы. На гаспадарцы *гаруюць* дзеці і жонка. Можа, дадуць яму рэнту, але такому чалавеку страціць здароўе і сядзець на *панствовым* — гэта як магіла.

Я думаю, што той, хто намі *жондзіць*, павінен бачыць і думаць, чый ён хлеб есць. Ну, „*жонд* сам пракормліца", як калісь казаў Ежы Урбан, быўшы блізка пры ўладзе. Але за хлеб каменя ніхто не павінен атрымоўваць.

А, можа, некаторым розуму не стае? Усё збіраюцца ў сваіх палатах, раяцца, разбіраюцца. Я мела надзею, што будзе ўсім роўна, паводле таго, колькі з сябе дасі, калі там за „круглым сталом" збіраліся. Мы вытрымалі той час, калі было „роўна", г.зн. адзін кілаграм мукі на душу і г.д. А можа гэта праўда, як людзі кажуць, што там добра, дзе нас няма? Старыя людзі пагаварваюць, што няма чаго наракаць, бо заўсёды можа быць горш.

**Іда Кавалевіч**
**Беласток**

# Парадкі па-арлянску

Орля ўжо гэтай восенню ўвойдзе ў элітарную групу гмінаў, у якіх 100% вёсак маюць ваду з водаправода.

— Нават з хутарамі, — падкрэслівае войт Міхал Іванчук. — Застаецца нам толькі Рудуты падключыць да праведзенага ўжо водаправода і ў Рыгораўцах пачынаем ужо перакопваць на другі бок чыгункі. Каб аформіць дазвол на гэта, аж тры разы даводзілася ездзіць у Варшаву.

Пракладку водаправодаў спадар Іванчук лічыць адной з прыярытэтных галін сваёй дзейнасці. Не без гонару расказвае, што калі стаў ён войтам у 1990 годзе, дык апрача самой Орлі да вады былі падключаны толькі некалькі вёсак: Кашалі, Крывятычы і Крывая (якая ўжо, дарэчы, у гміне Бельск). Тым больш было крыўдна за сваіх людзей, што з артэзіянскай студні ў Алякшах на тэрыторыі Арлянскае гміны ваду бралі чатыры вёскі з Боцькаўскае гміны і дзве з Бельскае, але ніводная мясцовая. Пасля некалькіх гадоў намаганняў, сітуацыя ў радыкальны спосаб памянялася.

Другая важная справа, якая паспяхова вырашаецца ў гміне, гэта дарогі. На працягу месяца будзе выліты асфальт на апошнім адрэзку дарогі са Шчытоў — ад павароту на Орлю да чыгункі (закрытае). Таксама кусок дарогі з Волькі-Выганоўскае на Рыгораўцы будзе асфальтаваны. А калі дазволяць магчымасці, то яшчэ вуліца ў Кашалях. Вельмі ўскладняюць працы новыя законы, паводле якіх на гмінныя інвестыцыі большай чымсьці 20 тысяч ECU (каля 70 тысяч новых злотаў) вартасці мусяць распісваць конкурсы, аб'яўленыя ў спецыяльным агульнапольскім бюлетэні. Калі меншы кошт, хопіць аб'ява ў акруговым бюлетэні на тры ваяводствы.

— Шкада, што ў такіх выпадках нельга весці вусных перамоваў, — войт лічыць, што яны даюць магчымасці больш выгадных здзелак.

У Орлі рыхтуюцца працягваць будаваць амбулаторыю, пад якую фундаменты стаяць гатовыя ўжо некалькі гадоў. У сувязі з тым, што канчаецца пабудова бальніцы ў Гайнаўцы, ёсць спадзяванні атрымаць фінансавую дапамогу ад вавводы. Войт абяцае таксама неўзабаве аддаць у карыстанне хоць частку кватэр у трохпавярховым доме ля школы.

— Раней была гэта ўласнасць асветнай куратарыі, цяпер блёк у кампетэнцыі гміны. Але, вядома, настаўнікі павінны мець першынство ў атрыманні ў ім кватэр.

Парадаксальна, зрух у мясцовым бізнесе можа пачацца ад ліквідацыі бойні. Аб'екты, якія засталіся пасля яе, пераймае бельская фірма „Крэс" з мэтай адкрыць аптовы склад рыбы. Прадпрымальнікі з Бельска абяцаюць даць працу сарака асобам.

Патэнцыяльны бізнес ляжыць яшчэ ў арлянскай зямлі — гэта высакаякасная гліна. Войт Міхал Іванчук спадзяецца, што спатрэбіцца яна ў будаўніцтве, крызіс у якім, здаецца, ужо за намі.

**М. В.**

# Мары здзяйсняюцца ў Белавежы

— Сродкі масавай інфармацыі перасталі ўжо палохаць турыстаў кляшчамі і рух паправіўся, — сцвярджае, падсумоўваючы сезон, Аляксей Грыгарук, кіраўнік аднаго з белавежскіх турыстычных бюро. Яго думку пацвярджае статыстыка. У гэтым годзе, да паловы верасня, Белавежу наведала амаль 68 тысяч чалавек, на 13 тысяч больш, чым у аналагічным перыядзе папярэдняга года. Замежных турыстаў налічылі ўсяго каля 4 тысяч. На жаль, у гэтым выпадку выступіла невялікае, малаважнае падзенне руху. Падчас летняга сезона на белавежскіх шляхах найчасцей бачылася грамадзян Нямеччыны, Галандыі, Вялікабрытаніі, Францыі, Беларусі, Швейцарыі, Бельгіі і Італіі. Зрэшты, тут можна сустрэць вандроўнікаў з цэлага свету, нават з гэтак экзатычных для нас краін, як Ганконг, Новая Зеландыя, Філіпіны, Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка, Мальгашская Рэспубліка, Кенія, Венесуэла, Аргенціна.

Узровень і дыяпазон абслугоўвання наведваючых Белавежу турыстаў павышаюцца з кожным годам. Узрастае лік турыстычных бюро. Зараз дзейнічае іх аж дзесяць (у г.г. пачалі дзейнічаць „Setec-Tour", „Natur" і „Earth Sniffers"). У апошніх гадах адчынена дзве прыватныя гасцініцы (па вул. А. Вашкевіча і ў праездзе паміж вуліцамі В. Габец і Застава). Паявіліся новыя пункты продажу сувеніраў. Трэці ўжо год паспяхова дзейнічае галерэя Тамары Тарасевіч. З пачаткам г.г. Белавежскі нацыянальны парк адчыніў свой асяродак прыродазнаўчай адукацыі, накіраваны перш-наперш на працу са школьнай моладдзю і настаўнікамі. Аматары птушак могуць пакарыстацца парадамі і паслугамі інфармацыйнага бюро Паўночнападляшскага таварыства аховы птушак, размешчанага ў даўнім бары „Вэймутка".

Комплекснае турыстычнае абслугоўванне вядуць, апрача ўспомненых турыстычных бюро, таксама два мясцовыя рэстараны — „Іва" і „Зуброўка". Праз іх пасрэдніцтва можна наняць экскурсавода, заказаць харчаванне ці начлег, арганізаваць катанне на брычцы па пушчы і турысцкае вогнішча ва ўрочышчы Старая Белавежа. Цяжка сабе ўявіць лепшую сітуацыю!

Пераважна няма ніякіх праблемаў з купляй карты тутэйшага ляснога комплексу і паштовак. Горш ужо з даведнікамі. У продажы знаходзяцца толькі два даволі скупыя і ў нейкай ступені ўстарэлыя інфарматары. На старанны, дакладны даведнік па Белавежскай пушчы турысты чакаюць ужо не менш чым дзесяць гадоў. Замежнікі наракаюць на недахоп выданняў на сваіх мовах. Даступныя ў продажы невялікія брашуры на англійскай і нямецкай мовах датычаць усяго паасобных аб'ектаў ці тэмаў. Французскамоўны турыст у сваю чаргу не знойдзе і гэтага. Пра нястачу альбома аб пушчы ўжо надаела нават успамінаць!

Сапраўдным гітам сёлетняга сезона ў Белавежы стала відэакасета з запісам 5-серыйнага прыродазнаўчага тэлефільма „Пульс першабытнай пушчы" Бажэны і Яна Валенцікаў. Касета прадаецца ў двух моўных версіях — польскай і англійскай.

З новых турыстычных атракцыёнаў трэба ўспомніць т.зв. месца моцы (у 495 квартале пушчы), добраўпарадкаванае і перададзенае турыстам у карыстанне восенню 1995 г. Яго наведваюць даволі часта і тлумна. Шкада толькі, што на месцы няма хаця б скромнай інфармацыйнай дошкі аб аб'екце. Некаторыя сцвярджаюць, што самы вялікі валун мае моц здзяйснення людскіх мараў. Калі пастаяць на іншых каменях, можна палепшыць пераплыў энергіі ў паасобных т.зв. чакрах чалавека. Ці гэтак дзеецца ў сапраўднасці, трэба нашаму чытачу пераканацца самому!

Памяркоўным зацікаўленнем турыстаў карыстаюцца прагулкі на вузкакалейцы з Гайнаўкі ў Тапіла, якія наладжваюцца ў кожную суботу тыдня (да кастрычніка) ці па спецыяльных заказах. На месцы, у Тапіле, турыстам распальваюць звычайна вогнішча, паказваюць наваколле басейна. Білет на праезд каштуе 19,80 зл. Моладзь да 16 года жыцця карыстаецца 25-працэнтнай скідкай.

**Пётр Байко**

# Успамін пра Міхася Зуя

Маё знаёмства з прэзідэнтам Беларускае Цэнтральнае Рады М. Зуём было вельмі кароткім. Толькі вясной 1994 года я здолеў наладзіць з ім кантакт і атрымаў ад яго першы ліст, а ўжо ў красавіку 1995 г. Зуй памёр ад рака. За гэты час я здолеў здабыць яго давер і атрымаць шмат каштоўных дакументаў, фотаздымкаў па гісторыі Беларускай незалежніцкай партыі (БНП), сябрам ЦК якой Міхась Зуй з'яўляўся. А ў кастрычніку 1994 г., ужо ў бальніцы, на маю даўнейшую просьбу ён напісаў успаміны пад назвай „Мая аўтабіяграфія".

Сёння я прапаную чытачам „Нівы" урывак з гэтых успамінаў, прысвечаны знаходжанню М. Зуя на нелегальным становішчы ў Польшчы ў 1945—48 гг. Зраблю кароткае паясненне да іх.

Міхась Зуй нарадзіўся 23 кастрычніка 1909 г. у вёсцы Вялікае Сяло Германаўскай воласці Дзісенскага павета на Віленшчыне. Падчас II сусветнай вайны працаваў у беларускай адміністрацыі, уваходзіў у нацыянальнае падполле. Зуй удзельнічаў у II Усебеларускім кангрэсе ў Менску ў чэрвені 1944 г., пасля чаго выехаў на Захад. Яшчэ ў Польшчы ён уступіў у беларускі дэсантны батальён „Дальвіц", які вясной 1945 года апынуўся ў Чэхіі. Пасля капітуляцыі Нямеччыны беларускія вайскоўцы прабіваліся на Захад, але дайшлі туды толькі адзінкі. Многіх напаткаў лёс М. Зуя, які больш трох гадоў жыў у Польшчы. Перабраўшыся на Захад, Зуй кароткі час жыў у Заходняй Нямеччыне, а пасля выехаў у Аўстралію. Там ён прымаў актыўны ўдзел у беларускім грамадскім, культурным і палітычным жыцці, належаў да прыхільнікаў Беларускай Цэнтральнай Рады. Напрыканцы 1980-х гг. М. Зуй стаў пераемнікам прэзідэнта БЦР Н. Мядзейкі ды выконваў гэтыя абавязкі амаль да самай смерці. Памёр ён 24 красавіка 1995 года і пахаваны на праваслаўных магілках у далёкім Сіднеі. Да свайго апошняга дня ён заставаўся шчырым беларускім патрыётам і вельмі перажываў за лёс дарагой Бацькаўшчыны.

**Сяргей Ёрш**

**Міхась Зуй**

# На нелегальным становішчы

Нашу групу на чале са старшым лейтэнантам Будахоўскім*), у ліку 26 чалавек, затрымаў аддзел савецкага войска. Забралі ад нас гадзіннікі і ўсе каштоўнейшыя рэчы і пад канвоем адвялі ў лес, абставілі кулямётамі і сказалі: „Сядзець, а хто толькі падымецца, страляем без папярэджання". На мне была ўніформа беларускага лейтэнанта. Нашы канваіры, атрымаўшы загад ад вышэйшага камандавання, вывелі нас на дарогу і накіравалі на размеркавальны пункт у горад Тускаў.

Пакуль дайшоў я да месца прызначэння, свой мундзір беларускага лейтэнанта замяніў світэрам і на допыце ў НКУС падаў няправільны хатні адрас, схлусіў, што я быў забраны прымусова з дому на працу ў Нямеччыну. Мяне ўключылі ў 143-ці Гвардзейскі чырвонасцяжны полк, прывялі ў прызначаныя баракі. Два месяцы праходзілі тактычныя заняткі. Праз два месяцы злучылі тры палкі разам і пехатой адправілі праз Польшчу ў Берасце (Брэст-Літоўск), дзе мелі пасадзіць на цягнік і адправіць на Далёкі Усход. Калі прыйшлі ў Польшчу, затрымаліся на тры дні ў 50-ці км ад Лодзі. У часе пастою НКУС узяў мяне на допыт.

Капітан НКУС, з-за недахопу патрэбных яму довадаў, адклаў допыт на заўтра. Я гэтай жа ноччу вырашыў уцякаць. Вечарам сарганізаваў на ўцёкі двух сяброў: Жабуртовіча і Кіслага. Мы здэзерціравалі, а калі б толькі злавілі нас — на месцы расстралялі б. Ужо былі ў пастцы, але дзякуючы вартавым, якія запальваючы загаварыліся, мы прашмыгнулі ў лес па-за іх плячыма. Тут спаткаў мяне няшчасны выпадак: узлез я на высокі дуб і, праз няўважлівасць, паламаў ногі. Сябры зацягнулі мяне ў маладзенькі густы сасоннік, а самі пайшлі арганізоўваць мне дапамогу. Раніцой прыйшоў да мяне паляк Грабоўскі, прынёс скібку хлеба і літар кавы, і на працягу тыдня я атрымоўваў ад яго пасілак.

Ногі пухлі, ляжаў прытаіўшыся, накрыты плашч-палаткай. Зверху грызлі камары, знізу — мурашкі. Праз тыдзень Грабоўскі кажа мне, што яму небяспечна прыходзіць да мяне: „Я забяру цябе дадому і палажу ў паветцы". Узваліў мяне на плечы і каля паўтара кіламетра валок дадому. Праз тры тыдні я пачаў спрабаваць уставаць і яшчэ праз два з кіем мог зрабіць пару крокаў. Мой апякун забраў мяне пільнаваць свой сад. Праз два месяцы зрабілі мне часовы пашпарт і я, па пратэкцыі, уладкаваўся ў Варшаве слесарам. Перад Калядамі з-за недахопу фінансаў звольнілі 15% рабочых, а сярод іх і мяне.

Ранняй вясной 1946 году дастаю працу пры вырошчванні фруктовых дрэўцаў у той вёсцы, дзе атрымаў першую дапамогу пасля дэзерцірства з савецкай арміі. Наведваючы Варшаву, спаткаў я некаторых маіх сяброў, з якімі разам працаваў у арганізацыях. Даведаўшыся ад іх адрас маёй сям'і, якая жыла на „землях адзысканых", еду і знаходжу матку, двюх сясцёр, брата, швагра і другіх крэўных і прыяцеляў. Вяртаючыся назад, разлічваюся з працадаўцам і ўвечары 4 снежня 1946 года прыязджаю да сваёй сям'і. Брат і швагер служылі леснікамі, а я дастаў працу ў бюро надляснііцтва — весці ўлік высечанага лясного матэрыялу і продажу.



*Аўтар успамінаў.*

Роўна праз год 4 снежня 1947 г., у 12 гадзін ночы НКУС прыехаў забраць мяне. Той ноччу я начаваў у швагра. Яны арыштавалі спачатку брата, але праз 20 хвілін агледзеліся, што гэта не той, хто ім патрэбны. Вярнуліся выправіць сваю памылку, але я ўжо быў у лесе.

Праз тры дні НКУС арганізаваў абланву на мяне, але тут яны не мелі поспеху. Дзесяць дзён сыпаў снег, а я сядзеў пад елкай і змагаўся за сваё існаванне. Пасля дзесяці дзён, з фальшывымі дакументамі, сеў я на цягнік і паехаў да майго сябра, які займаў высокі пост у адміністрацыі. Падчас нямецкай акупацыі яго брат быў у партызанах. На адным ложку праспаў з ім паўтара месяца. За гэты час спаткаў некаторых блізкіх суседзяў, якія, нягледзячы што належалі да камуністычнай партыі, абяцалі ў патрэбе абараніць мяне перад НКУС.

За гэты час зрабіў я сабе другія дакументы, змяніўшы прозвішча, і пераехаў у Едліна-Здруй, каля чэшскай мяжы, на ферму да майго сябра Рабізы. Я чакаў тэлеграмы ад прыяцеля са Шчэціна, які абяцаў залагодзіць на „чорна" пераход польска-нямецкай мяжы. У канцы чэрвеня 1948 года атрымаў тэлеграму: „Прыязджай". І 28 чэрвеня, позна ўвечары, паляк-праваднік, камандзір Арміі Краёвай і я перайшлі мяжу. На трэці дзень, перамагаючы перашкоды, дабраўся я да амерыканскага сектара ў Берліне.

*) Пасля вайны жыў у Польшчы, у Зялёнай-Гуры. Арыштоўваўся польскай службай бяспекі. — С. Ё.

# Неўзабаве новы набор палітыкаў

Прапарцыянальна да таго, як падае тэмпература восеньскага паветра, узрастае тэмпература палітычнага жыцця ў Польшчы. Рост гэты, выкліканы актыўнасцю галоўных акцёраў палітычнага тэатра краіны, будзе неўзабаве яшчэ больш дынамічны ў сувязі з набліжэннем тэрміну чарговых парламенцкіх выбараў. Быць сёння паслом у Польшчы, як бачым на прыкладзе знакамітых беластоцкіх парламентарыяў, гэта атракцыйны спосаб праіснавання ва ўмовах перыяду трансфармацыі. Нуль рызыкі, нуль адказнасці і непрапарцыянальна высокая плата прыцягваюць у рады кандыдатаў у сенатарскія і пасольскія крэслы дзесяткі тысяч аматараў вялікай палітыкі. Такога бізнесу, як выйгрыш на выбарах, не робіцца ні ў галіне культуры, ні навукі, ні нават гаспадаркі. Ведаючь пра тое не толькі цяперашнія паслы і сенатары, якія, маючы надзею паўторна выйграць чарговыя выбары, запланавалі плату парламентарыям будучага Сейма і Сената на ўзроўні платы прэзідэнта краіны. Ведаюць пра тое ўсе дзеячы шматлікіх арганізацый — ад экалагічных да ідыятычных. Таму некаторыя, яшчэ год да выбараў, з невераготнай энергіяй рушылі на шлях змагання за чароўныя крэслы.

Апрача ветэранаў палітычнага руху краіны, якія старыя лозунгі прадаюць у штораз больш прывабных упакоўках, неўзабаве паявяцца эфемерныя Напалеоны, Пілсудскія, Касцюшкі, у якіх будуць простыя адказы на найбольш складаныя праблемы. Кожны з іх гатовы будзе свой непаўторны талент ахвяраваць для агульнага дабра краіны. Тым часам пераможцы на папярэдніх выбарах, паміж дробнымі спрэчкамі, узнікаючымі час ад часу пры нагодзе падзелу „касы", заяўляюць аслупянелым грамадзянам пра дынамічнае развіццё гаспадаркі, спад беспрацоўя, рост агульнага дабрабыту. З другога боку г.зв. правая апазіцыя паміж чарговымі падзеламі і яднаннямі спаборнічае ў прапагандаванні камуністычных метадаў гаспадарання і каталіцкага светапогляду. У гэтай апошняй галіне некаторыя палітыкі, спадзеючыся на падтрымку касцельнага апарату, праяўляюць большую актыўнасць, чым епіскапы.

У Беластоку на змагарных дарогах апынуліся ўжо паслы цяперашняга Сейма, якія пастаянна прысутнічаюць на кожнай забаве, фэсце, вернісажу, мітынгу, прыпамінаючы такім чынам пра сваё існаванне. Не дрэмле таксама іхняя канкурэнцыя. Парафіяльныя актывісты пры нагодзе прапагандавання крайніх форм феадальнага ўспрымання свету, расславілі Беласток ва ўсёй Польшчы. У акцыю пошукаў голых с... у часопісах заангажаваліся цяпер таксама судовыя органы дзяржавы.

У беларускім асяроддзі тым часам некаторыя дзеячы нясмела пытаюцца адзін аднаго: „А што мы?" Ім жа ўсім вядома, што наш знакаміты электарат ніколі не галасаваў на беларусаў, якія адкрыта называлі сябе беларусамі. Заўсёды загадзя добрыя людзі інфармавалі выбаршчыкаў, што „білорусы" — гэта ніхто іншы як нацыяналісты, уніяты, баптысты і абавязкова нечыя там агенты. Сёлета таксама першая спроба паразумення дзеячаў Беларускага саюза з польскімі „ружовымі" з Уніі працы сустрэлася са здзеклівымі каментарыямі пурпурных артадоксаў.

А можа, калі БЕЛАРУСКІ электарат не такі ўжо і шматлікі, не трэба ўвогуле арганізаваць ніякіх беларускіх выбарчых камітэтаў, а проста паставіць нейкага нашага „уніята", „нацыяналіста", ці „баптыста" на выбарчым спіску польскай партыі, якая па нейкіх там прычынах захоча мець у сябе беларуса, хаця б толькі дзеля таго, каб даказваць такім чынам, што еўрапейскія прынцыпы для яе не чужыя. Украінцы ўжо два разы, ідучы такім шляхам, мелі сваіх парламентарыяў.

**Яўген Міранович**

# „Дыскусія" (9)

Паказаўся чарговы — дзевяты — нумар польска-беларускага часопіса „Дыскусія". Яго змест у сапраўднасці адпавядае назве. Артыкулы, пісаныя беларусамі, адрэдагаваны на польскай мове, палякамі — на беларускай. Нумар адкрывае артыкул Уладзіміра Паца, вядомага карэспандэнта Польскага радыё ў Мінску, аб палітычнай і гаспадарчай сітуацыі ў Беларусі. Як бы ў рэваншы другім артыкулам з'яўляецца апісанне Тамаша Шчапанскага, на беларускай мове, палітычнай сітуацыі ў Польшчы. Пасля змест часопіса кранае польска-беларускіх адносін на міждзяржаўным і ніжэйшым узроўнях — паміж беларусамі і палякамі на Беласточчыне.

Два цікавыя артыкулы змяшчае ў гэтым нумары „Дыскусіі" Павел Казанэцкі — пра гісторыю беларускай дзяржаўнай сімволікі і сітуацыю сродкаў масавай інфармацыі ў Рэспубліцы Беларусь. У часопісе змяшчаецца таксама вельмі крытычная рэцэнзія Багуміла Бэрдыхоўскай на кніжку „Białoruski ruch studencki w Polsce 1981-1992", а таксама частка паэмы Якуба Коласа на польскай мове ў перакладзе Часлава Сенюха.

Шкада толькі, што „Дыскусія" паказваецца нерэгулярна. Мог бы гэта быць сур'ёзны беларуска-польскі штомесячнік.

**(рэд.)**

# Новыя вершы

Івона Марціновіч

ДЭМАН ночы
як крук ... пачаў агністы палёт
летнім вечарам
маўкліва
апускаўся на мае
валасы бурштынавыя
мне падгіналіся ногі
а Ён прасіў пакахай жа
а я... вазьмі на рукі
... іду кучаравы лоб цалаваць
раптам
разлілося святло
і віно
і узлёт
ізноў стала цёмна
...нельга было нават палічыць...
...пальцы на руцэ
НОЧЫ

* * *

вялікай прывабы бываюць ІСТОТЫ
прысутнасць якіх і чаруе
і гоіць
СФІНКС затоплены ў роздум
можа ўціхамірыць боль
боль спутанай душы
...а ЦІШЫНЯ загадвае ў пакоры
змоўкнуць перад самім Словам
майму слову струн вясёлых перабору
Скардзішся на цьмянасьць майго жыцця?
а я жыву...
калі небакрай пазалоцяць сонца праменні
ўсмешкаю рэдкай
жыву... калі думкаю вольна
імчуся на Ікара крылах
невядома куды
каб дзень быў днём
а ноч была ноччу
і ты сабою

Уладзімір Сіўко

## Спяём

На якой ноце песні пець?
Які узяць для яе тон?
Ці у жалобе загудзець,
Як пахавальны ў царкве звон?

Ці з пераборамі цымбал
Падкінуць музыкі вам жар,
Каб і бязногі заскакаў
Калецтва скінуўшы цяжар?

Вам не апрыкрала маўчаць
У глухой нямоце сцяўшы рот?
Можа няма чаго сказаць,
Збяднеў на песні наш народ.

Не! Песень нам не пазычаць.
Яны для нас бясцэнны дар.
З якое толькі нам пачаць,
Каб рэха неслася да хмар?

Можа з'яднаем галасы
У адзіны беларускі хор
І песня дзіўнае красы
Узаўецца да высокіх зор.

І каб страляла перуном
У барабан глухіх вушэй,
Хто ў люкс кватэры за акном
У дабрабыце заімшэў.

Міра Лукша

* * *

Дождж ідзе. Ідуць гадзіны.
Задыхаецца гадзіннік.
Ноч ідзе. І сум. А з імі
Я і восень. Холад стрымай,
Ты зіма, на гор вяршынях.

Барыс Руско

## Адыход

Ідзеш,
а сонца паўднёвае,
а ніва недаспелая,
а вершы недачытаны,
а песні недапісаны,
карціна на мальберце.
Чакай.
Дзетка буквар гартае —
будучы аўтар тэорыі ўсяго.
Заўчасна адыходзяць
без малітвы.

## Жар

Акно ў раніцу.
Жар красак, уяўленняў.
Жывыя плоскасці,
аж па край зрэнак.
Кветкі, ручаі мёду,
шацёр бурштынавы.
Нішто не ўмірае.
Час у саркафагу прасторы.

## Сярод ценяў

Дарогаю стромкаю
на могільнік
пагубіў я твары продкаў.
І толькі песня жалобная
давіць мяне,
і свечак зорнае мірганне.
Вечар у малітве,
а ў кошыках страва.
Цені, каштуйце да волі,
ужо звалены камень з жыцця.

## Жменя дня

Калі аблокі ў дарозе,
жыве хвіліна.
Бронза ў кубку кавы
маўчыць і шэпча.
Узляцелі крылы,
сонца схавалася ў зелень,
а ў далонях старога
жменя гарачага дня.

## Світанне вечарам

Дуб у сцяне часу,
як у апошняй малітве,
чакае,
а вечар
чорныя кроплі збірае з кары.
Касы світанак
люляе парасткі,
на іх матыль
праспіць паўдня.

## Спектакль

Твор павучыны
звісае са столі,
а на сцэне да ўпаду
іграюць цвыркуны.
Спектакль жыве інакш,
у іншым месцы
і ў іншым часе.
Утаропілены ў крык гледачоў,
на краі падмостка
акцёр спатыкнуўся,
а на прылаўку
білет у тэатр.

## Начное блуканне

У лесе фіялетавая тканіна
месяца расцягнулася, як
павуціння ў нагонцы.
У трапяткой цемры блішчучыя
вочы, крыло заморка апала
на карак мёртвай зданi.
Між соснамі ноч-балерына,
мякка ступае
па абымшэлай рампе
ўласнага тэатра.

Марк Рубашэўскі

# З жыцця ўзятае

„Быў сабе малы хлопчык, які меў вельмі добрага дзядулю...” — так магло б распачацца маё апавяданне, але было б яно мала паблытанае, а я люблю рэчы паблытаныя і складаныя (інакш не пісаў бы яго). На гэтых старонках апісваю гісторыю, якая калісьці здарылася. Вось яна.

Цэлая гэта гісторыя мела пачатак 4 снежня 1979 года, калі нейкі малы хлопчык убачыў упершыню свет. Папраўдзе ён не быў малы, але нават наадварот, таму што важыў аж пяць кілаграмаў. Калі ўжо з'віўся на гэты свет, не ведаў ён яшчэ, што мае маму, пра дзядулю і не кажучы. Але гэта, пакуль што, абмінем.

У тры гады Марк — так ён называўся — ужо знаў свайго дзеда, які быў для яго ідэалам мужчыны. Адзін ад другога не адыходзілі; разам елі, рабілі такія цацкі, як самалёты або звяры, ездзілі на машыне па грыбы, на раку, у агарод. Марк ад самога пачатку быў пры маме — яго бацька адышоў, і таму прывязаўся ён да дзеда, адзінага мужыка ў сям'і. Так ён рос, а яго дзядка Валодзя вучыў чытаць з кніжак і газет. І так, маючы чатыры гады, Марк чытаў газеты свайму прадзеду Сцяпану, якому тады было 85 гадоў. Дзядуля навучаў унука, калі і дзе можна пераходзіць вуліцу; яны таксама разам пазнавалі маркі самаходаў. Для ўнука ўсё гэта было новае і цікавае: многімі тадышнімі ведамі ён і цяпер карыстаецца.

Як кожны чалавек, так і дзядка меў пэўныя слабасці — замнога часам выпіваў. І менавіта з-за гэтай слабасці аднойчы яго ўнук мог выкарыстаць усе здабытыя дагэтуль веды на практыцы. Зачнем ад пачатку.

Аднойчы, 1-га Мая, у Свята працы дзядуля з унучкам пайшлі *на страганы* купіць што-нішто. Многай усячыны яны накуплялі: цацак і ласункаў, і ўжо думалі вяртацца назад, калі дзедка спаткаў сваіх сяброў, з якімі калісьці працаваў. Аднаго з іх Марк запамятаў таму, што ён меў вялікі жывот. „Пузан” — так унук называў гэтага мужчыну — намовіў дзедку пайсці да яго хаты. Ну і яны пайшлі. Спачатку яны гаварылі пра ўсё, потым на стале паявілася „агністая вада”. Вынікам гэтага здарэння сталі пустая бутэлька і двух падпітых дзядкоў. Калі прыйшлося вяртацца дамоў, то не дзед унука, але ўнучак дзедку вёў дадому, вельмі важна пераводзячы свайго падапечнага праз вуліцу.

Мама з бабуляй ужо іх шукалі. Унук быў задаволены, што заапекаваўся дзедкам і расказаў пра гэта маме.

Гэтае здарэнне закончылася шчасліва, але ўжо другое было так трагічнае, што не хапае слоў, каб яго апісаць; усётакі пастараюся гэта зрабіць.

Здарылася гэта 7 кастрычніка 1984 года, калі ўнуку было пяць гадоў. Ужо дзень раней усёй сям'ёй вырашылі, што ў нядзелю паедуць па грыбы. Марка гэта вельмі ўзрадавала, бо любіў ён бываць у лесе і падглядаць прыроду.

У лес паехалі мама, бабуля, унук і дзядка Валодзя. Трэба было ехаць восем кіламетраў, у Малінова. Ехалі яны на дзедкавай „Сірэнцы-105”. Унук з дзедкам спявалі дзіцячыя песні; было вельмі весела і прыемна. Раптам дзядка ўмомант перастаў гаварыць, пабладнеў, расшпіліў гузік у кашулі. Марк хацеў далей співаць, але бабуля, якая ўсё гэта бачыла, прыказала яму супакоіцца, а дзедку спытала, як ён сябе адчувае. Валодзя спачатку маўчаў, а потым адказаў, што ўжо яму добра. У лесе паставілі машыну і ўсе разышліся шукаць грыбоў. Унук хацеў ісці з дзедкам, але той загадаў астацца з мамай. Калі ўсе назбіралі грыбоў, вярнуліся, але дзедкі не было. Бабуля пачала нервавацца і плакаць. Усе пачалі шукаць яго, крычаць, трубіць, але дзедка не прыходзіў. У кастрычніку дзень вельмі кароткі, хутка становіцца цёмна. Унук быў змучаны і хацелася яму спаць, таму бабуля палажыла яго ў машыну і ён заснуў. Мама Марка пайшла шукаць свайго бацьку, але не знайшла.

Пасля задумала яна ісці ў вёску Малінова, каб пазваніць па міліцыю. Прыехалі шукаць, але ў лесе было цёмна, хоць вока выкалі, і нікога не знайшлі. Было ўжо позна і мы вярнуліся дамоў. Усе думалі, што дзядуля заблудзіў і прыйдзе; бабуля выглядала яго ў акне цэлую ноч.

Наступнага дня войска і міліцыя паехалі шукаць загінуўшага. Камандуючы расставіў людзей у шарэнгу ў адлегласці пяці метраў адзін ад аднаго і загадаў у выпадку знаходкі выстраліць чырвоную ракету. Неўзабаве знайшлі цела дзядулі. Выглядаў ён, як жывы: стаяў на каленях, у адной руцэ трымаў ножык, у другой кошык. Лекар сказаў, што гэта інфаркт з інсультам і што нават калі б ён быў дома, то і так не змаглі б яго выратаваць.

Унук вельмі перажываў смерць дзядулі: тры месяцы хварэў. Падчас пахавання Марк крычаў: „Кастуха, чаму ты забрала мне дзядулю!?” Цэлы свет быў яму нямілы.

На канец хачу паясніць, што той унучак, гэта я — аўтар гэтага апавядання. Цяпер мне семнаццаць гадоў і тое здарэнне прыпамінаю быццам праз імглу.

# Меншасная сустрэча ў Гданьску

Нядаўна, 13–15 верасня г.г. у Гданьску праходзіў Фестываль нацыянальных меншасцей. У гэты прыгожы, ахутаны гатычна-марскім кліматам горад, з'ехаліся амаль усе прадстаўнікі меншасцей, якія пражываюць у Польшчы: славакі, украінцы, цыганы, беларусы, немцы, яўрэі, кашубы. Сярод спевакоў было многа дзяцей. Наймалодшымі выканаўцамі былі дзеткі з Гданьска, прадстаўнікі немцаў. Выступалі яны ў цікавых касцюмах, якія выглядам нагадвалі божыя кароўкі. Сам вакальна-танцавальны гурт называецца „Marienkäferchen”, што па-нашаму менавіта і значыць божыя кароўкі. Дзеткі вучацца сваёй нямецкай мове і песень перш за ўсё ад бабуль і дзядуляў. Свае рэпетыцыі праводзяць яны ў нямецкім клубе, які для іх з'яўляецца ўтульным і гасцінным другім домам. Бацькі згаданых дзяцей робяць усё, каб перадаць сваім наследнікам культуру продкаў. Нямецкія дзеткі добра паказаліся на сцэне. Сярод публікі аж расплакаліся некаторыя гледачы. Не менш цікава паказаліся кашубскія дзеці, якія выступалі як вакальная група „Кневяцы”. Кашубы жывуць над морам. Маюць яны сваю родную кашубскую мову і школы, у якіх вывучаюць гэты прадмет.



Гданьск — горад ахутаны гатычна-марскім кліматам.




Славацкі гурт „Ромбань” танцуе пад рытм яўрэйскай музыкі.

„Кневякамі” апякуюцца мамы дзяцей. Гэтую групу стварылі таксама мамы, аб'яднаныя ў гуртку вясковых гаспадынь. Яны вышылі сваім дзеткам нацыянальныя касцюмы. Дзякуючы гэтаму „Кневяцы” маюць непаўторную, прыгожую вопратку.

Ад славакаў, якія жывуць у Навасончаўскім ваяводстве, прыехаў танцавальна-вакальны гурт „Ромбань”. *Ромбань* — так па-славацку называецца паляна. У гурце вельмі вясёлыя і энергічныя хлапчукі і дзяўчаты. Яны ўмеюць спяваць і танцаваць не толькі свае славацкія песні і танцы, але і іншых народаў. Варта зашчапіць гэтую думку і нашым маладым артыстам. Калі пазнаем спадчыну іншых народаў, тады і заўважаем асаблівасці сваёй культуры.

Згаданыя славакі прыехалі з мясцовасці Хыжнэ. Іх гуртом апякуецца мясцовы ксёндз.

Гонар беларусаў ратавалі ліцэісткі з Гайнаўкі і гурт „Вядро” з Бельска. Найбольш удала выступілі дзяўчаты з гайнаўскага ліцэя. Беларускія песні ў выкананні Асі Масайла і яе сяброўак парадавалі не толькі гданьскіх беларусаў. Выступленне дзяўчат падабалася многім удзельнікам фестывалю. Дзяўчаты завіталі нават на Гданьскае радыё, дзе запісалі свае песні. З Беласточчыны прыехаў таксама дзіцячы гурт украінскай песні „Ранак”. Варта адзначыць, што спявалі яны падляшскія народныя песні. Усе маладыя выканаўцы не толькі выступалі на сцэне. Паездка ў Гданьск была добрай нагодай для цікавай экскурсіі. А ў Гданьску ёсць што пабачыць. У 600-тысячнай агламерацыі шмат цікавых помнікаў і мясцін. Ну і, зразумела, ёсць магчымасць пабачыць мора.

Пры нагодзе трэба ўспомніць і нашых сяброў з Гданьска. Там беларускія дзеткі ходзяць на ўрокі роднай мовы. Беларускай мовы навучае іх спадарыня Анна Іванюк. Сярод вучняў беларускай групы ёсць наша карэспандэнтка Цалінка Глагоўская.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*

P.S. Прапануем вам развучыць славацкую народную песню „Za vodou, za vodou...”. Звяртаем вашу ўвагу, што літары **š**, **č** трэба вымаўляць як **ш**, **ч**.



З яўрэйскім калектывам „Шпілёкернэ” з Даніі спявае Ханэ Нусбаўм.

## Za vodou, za vodou...




Za vodou, za vodou, za vodičkou,
hrála sa má milá s holubičkou;
hrála sa má milá s čiernym orlom:
ožeň sa, šuhajko, s pánom bohom!

# Невядомае бежанства

Яшчэ ў часы майго дзяцінства ўсе старэйшыя людзі ўспаміналі **бежанства**. Гэтыя расказы былі для мяне і маіх аднагодкаў незразумелымі. Пра іх мы не вучыліся ў школе. Падручнікі па гісторыі нават не згадвалі пра *нейкае бежанства*. Добра, што сёння ў некаторых школах, напрыклад у Храбалах, вучні пазнаюць сваю сапраўдную гісторыю. Аказваецца, што ў часы, калі палякі змагаліся за незалежнасць сваёй краіны, нашы продкі — беларусы, мелі зусім іншыя праблемы. Найчасцей гібелі ад хвароб, голаду ды жахлівага перасялення ўглыб Расіі, Сібіры, Каўказу.

**Марта Якімюк** з Храбалоў запісала бежанскія ўспаміны роднай бабулі.

**Бежанства ў Храбалах** пачалося 8 жніўня 1915 года. Уся бабуліна сям'я, як і амаль усе праваслаўныя жыхары Беласточчыны, пакінулі свае родныя хаты і падаліся на эміграцыю ў Расею.

— Наша сям'я была вялікая, — успамінае бабуля Марты, — тата, мама, чатыры дзяўчынкі і два браты. Найперш ехалі на фурманках або ішлі за вазамі, бо было цеснавата ўсім памясціцца на фуры. Ужо ў вялікіх гарадах, у Менску або Гродне, саджалі бежанцаў на цягнікі і высылалі ўглыб Расеі, або далей у Сібір.

На месца новага пасялення бабуля Марты заехала ажно ў лістападзе. Там пасялілі іх у чужых людзей. Бацька хадзіў на працу. Даглядаў ён ваеннапалонных у лагеры. Дзеці пайшлі ў школу. Усе яны вучыліся ў рускіх школах. Адзін бабулін брат апынуўся ў войску. Але не пашчасцілася яму. Памёр падчас эпідэміі халеры. Другі брат пайшоў працаваць на чыгунку. І неяк можна было ўжо пражыць. Але ў 1917 г. выбухла рэвалюцыя. Для бежанцаў пачаліся новыя няшчасці.

— Тату выкінулі з работы, — успамінае бабуля. — Тады пачаўся голад. Да таго не было дзе жыць.

Бабуліна сям'я жыла ў манастыры. Тады рашылі, што вернуцца на Бацькаўшчыну. Хаця ўсюды шалела вайна і рэвалюцыя, бежанцы вярталіся дамоў — хто поездам, хто на фурманках, хто проста пяшком. Сям'я бабулі прыехала ў Бельск-Падляшскі на нямецкім грузавіку. Быў 1918 год. Калі дабраліся ў Храбалы, то там ужо расла крапіва і чарнобыль. Прыгарнуў іх тады дзядзька з Райска, у якога аж два гады гасцявалі. Бацька бабулі, прадзед Марты, купіў старую хату і дрэва на новы дом. Пазней тую драўніну, праўда, адабралі ў іх саветы, якія хацелі пабудаваць мост. У 1921 г. яшчэ раз прадзед Марты намерыўся ставіць свой дом у Храбалах. У вёску вярталіся і іншыя людзі з бежанства. І яны, як родныя Марты, пачыналі ўсё ад нова. Добра, што ў недалёкім Райску па немцах маёнтак астаўся. Людзі ехалі туды за збожжам, жывінай, бульбай. Доўга гаравалі ды галадалі, пакуль неяк ад нэндзы адбіліся. Таму не дзіва, што ўспаміны пра бежанства для нашых людзей страшнейшыя за ўсякія войны.

Паводле запісаў
**Марты Якімюк з Храбалоў,**
**вучаніцы Белліцэя**
**ў Бельску-Падляшскім.**

# Кот і дурань

***(беларуская народная казка)***

Было ў аднаго чалавека тры сыны: два разумныя, а трэці — дурань. Бацька стары быў. Перад смерцю раздзяліў сваю гаспадарку папалам паміж разумных сыноў, а дурню ката аднаго аставіў. А той і за гэта падзякаваў.

А як памёр бацька, разумныя браты дурня зусім прагналі. Выкінулі за ім і ката.

Пайшоў той дурань у хлеў жыць. Лёг на барлогу, ката да сябе прытуліў і горка заплакаў. Ляжаў ён, ляжаў, аж есці схацелася. Давай ён тады крычаць на ўсё горла:

— Есці хачу! Есці хачу! — і, схапіўшы ката, кажа яму: — З'ем цябе, дружа!

— Пачакай, даражэнькі, не еш мяне, — адазваўся кот чалавечым голасам.

І пайшоў кот па стрэхах лазіць, ежу шукаць. Прынёс каўбас, накарміў свайго пана. Наеўся дурань і замест супакоіцца, зноў крык занёс:

— Жаніцца хачу!

Ды нават ката біць стаў. „Трэба яго ажаніць, — думае сабе кот. — Але як з такім у сваты паказацца? Хто за такога абарванца замуж пайсці захоча?" Думаў-думаў кот і надумаўся. Пайшоў ён да краўца, назбіраў латак і пачаў дурню касцюм шыць. Накарміў кот дурня, абмыў яго, апрануў — хоць да каралеўны яго вядзі.

— Ну, пойдзем у сваты да нашага пана, — кажа кот дурню. — Ты заві сябе панам Абарванскім, сядзі як вялікі пан, галаву проста трымай і нічога не гавары.

І пайшлі. Прыйшлі, а пан аж дзіву даўся — кот такі гаварушчы з кавалерам прыгожым! А як кот расказаў, колькі ў пана Абарванскага маёнтку, то і паненцы наш дурань спадабаўся. Бацькі згадзіліся, але спачатку маёнтак пабачыць хацелі. Сабралі яны суседзяў, пасадзілі дурня ў карэту і паехалі. Кот паперадзе пабег.

Заехалі ў маёнтак Змея Гарынавіча. А там пастушкі вялікія табуны коней, статак кароў пасвяць. Кот і пытае ў іх:

— Чые вы будзеце,

— Змея Гарынавіча.

— Не гаварыце, што Змея Гарынавіча, кажыце, што пана Абарванскага, бо ззаду за мной Гром з Перуном, заб'юць вас, калі маіх слоў забудзеце.

Пастушкі так і зрабілі.

Бацька паненкі рос як на драджах ад радасці. Такі ж багаты пан ягоным зяцем будзе.

Прыбег кот у двор Змея Гарынавіча і крычыць:

— Хавайцеся, пане Змею, бо ляцяць Гром з Перуном і заб'юць вас!

А Змей, вядома, баіцца Грому.

— Куды ж мне схавацца? — пытае.

— Лезь у дупло, — паказаў кот на ліпу, што расла на двары Змея.

Перапалоханы Змей, быццам дурань, палез у тое дупло. Кату толькі гэтага трэба было. Забіў ён адтуліну паленам, замазаў глінай і замураваў гадзюку навекі ў дрэве. А сам на слугаў крыкнуў:

— Калі хочаце ў жывых астацца, то кажыце ўсім, што вы — пана Абарванскага.

Усе слугі так і зрабілі. А тым часам у двор пад'ехалі вясельныя госці. Зарадаваліся яны, пабачыўшы стройны, прыбраны, багаты двор. Слугі выйшлі насустрач і павялі маладых на пакоі. Там госці і веселле згулялі.

Так і стаў дурань панаваць у Змеевым двары. Яно праўда, што разумнейшым ён не зрабіўся. Але і навошта багатаму розум? У каго стае, дык і розуму дадае.

Апрацавала Зорка

# Польска-беларуская крыжаванка № 39

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут мы разыграем цікавыя ўзнагароды — касеты рок-гурту „Кардон".

**Адказ на крыжаванку н-р 35.** Лозунг: **Вітай, школа!** Узнагароды — сегрэгатары — выйгралі: **Івона Сегень** з Гайнаўкі і **Пятрусь Янкоўскі** з Бельска-Падляшскага. **Віншуем!**

waga
wąsy
przodownik pracy albo bębniarz
bagnisko
byk
zakątek
sukces
bób
kartofel, ziemniak
rozpacz, dramat
grupa
wanna
wojak
bebech, brzuszysko
ruch
łąka
ar
bór
kartoflisko
osa
ząbek
czas
raj
ogarek

# Фарбы

— Восень,
Восень,
Дзе хадзіла,
Фарбы столькі
Дзе купіла,
Фарбы яркай,
Фарбы чыстай,
То пяшчотнай,
То агністай?..
— Я развітвалася
З летам,
І яно дало
Пры гэтым
Мне
На добры
Успамінак
Свежай барвы
Для асінак,
Жоўтай охры
Для бяроз,
Для таполяў
І для лоз;
Бронзы з меддзю
Для алешын,
Для дубоў
І для арэшын...
А сасонкі
Абдзяліла
І ялінкам
Даць забыла
Фарбы новай...
І таму
Не мяняюць
На зіму
Сосны з елкамі
Ніколі
Вечны свой
Зялёны колер.

**Авяр'ян Дзеружынскі**

# Вавёрка

У лісічкі свая норка.
У вавёркі ёсць каморка.
Як у добрай гаспадыні,
У вавёркі поўна ў скрыні:
Жалуды, арэхі, шышкі.
— Намалюйце іх для кніжкі.

**Ларыса Геніюш**

# Дзе хто жыве

**Вігвам, яранга, чум**

Гэтыя дамы падобныя адзін да аднаго, хоць вігвамы будавалі індзейцы ў Паўночнай Амерыцы, а чумы і ярангі — народы Сібіры і Поўначы Расіі.

Няцяжка зрабіць такую будыніну. Калі пастараешся, дык і ты зможаш. Трэба ўзяць некалькі доўгіх жэрдак. Але браць варта толькі сухія, каб не нішчыць дрэвы.

Завастрыўшы з аднаго боку, забіваеш іх па крузе ў зямлю, а верхнія канцы звязваеш. Вось і гатовы каркас твайго „вігвама". Цяпер дастаткова пакрыць яго бяростай або галінкамі, і можна жыць. А паўночныя народы выкарыстоўвалі для гэтага аленевыя або ласіныя шкуры, каб было цяплей.

Крыху інакш выглядае яранга: у ёй сцены вертыкальныя, а дах нагадвае конус. У яранзе навешваюцца дадатковыя „сцэны" са шкур — атрымліваюцца пакоі. Падлога таксама засцілаецца футравымі дыванамі. Чыста, цёпла, утульна.

***(працяг будзе)***



Талон „Зоркі" № 39
29.09.1996



*На шляху „Жывога слова": артысты ў гасцях у арлянскага мастака і аматара старажытнасцей Міхала Мінцэвіча (усярэдзіне, у вышываным кашулі).*

**Максім Танк**

# Дзёнпікі

***(фрагменты)***

## 1978

**27.IX.** Дзень нараджэння Любашы. Зноў пачынаецца сезон маіх цыганскіх вандровак. Магчыма, з ёю паедзем у Маскву, а з Масквы — у Ташкент.

Прыйшла звестка аб смерці Яна Парандоўскага — выдатнага знаўцы антычнай літаратуры, перакладчыка. Узяўся за вершы Альда Северыні, хоць падрадкоўнікі — вельмі невыразныя, блытаныя.

Тэлеграма сакратара ЦК Грузіі. Запрашаюць на Дні савецкай літаратуры. Здаецца, у гэтыя дні намячаецца паездка ў Літву. Трэба мець конскае здароўе, каб паспець на ўсе гэтыя дні, юбілеі, сустрэчы, пленумы.

**24.X.** Перагартаў пачкі з тэкстамі сваіх выступленняў. Шкада, што столькі на іх змарнаваў часу. І мне яны нічога не далі, і чытачоў ці слухачоў не парадавалі. Пісьменнік павінен гаварыць сваімі творамі, а не нуднымі перадавіцамі і дэкларацыямі.

**26.X.** Зноў хвароба зваліла з ног. Магчыма, гэтымі днямі пад'еду падлячыцца ў Аксакаўшчыну. Мо таму у нашай літаратуры шмат апісальніцтва, што апісваць лягчэй, як думаць, заглыбляцца ў жыццёвыя працэсы.

**28.X.** Сустрэў Мікалая Сямёнавіча Арэхву. Хоча, каб я напісаў хоць пару слоў пра Іонаса Каросаса (абодва — дзеячы камуністычнага руху ў даваеннай Вільні, члены КПЗБ — рэд.). Трэба будзе заглянуць у свой архіў, дзе павінны быць яго пісьмы. Польскі сатырычны журнал надрукаваў, перакладзены яшчэ Янам Гушчам два мае вершы: „Аўтабіяграфічны фільм" і „Бутэлькі".

Нехта званіў з Масквы, толькі дрэнна было чуваць. Любаша кажа: можа гэта наша былая беластоцкая суседка па кватэры і былая падпольшчыца Марыся Руткевіч, якая цудам вырвалася са сваімі двайнятамі з разбітай падчас налёту нашай авіяцыі турмы на Павіяку? Толькі зараз яе прозвішча Старэвіч, за якога яна выйшла замуж, і які працуе ў ЦК ПАРП.

**19.XI.** Быў у сваіх літоўскіх сяброў. Ездзілі мы ў госці цэлай брыгадай: В. Вітка, А. Вярцінскі, А. Пысін, А. Мальдзіс, А. Разанаў.

Пасля літаратурнага вечара — быў яшчэ час — пахадзіў па старых знаёмых завулках Вільні. Заглянуў на рынак, завалены гароднінай, яблыкамі. На дарогу ўсе мы купілі па пары булак духмянага „Літоўскага" хлеба і хлеба „Паланга", якім будзем частаваць сваіх дамашніх.

Я. Гушча просіць выслаць яму наш тлумачальны слоўнік. Толькі не знаю, ці ўдасца зараз мне яго знайсці.

**22.XI.** З задавальненнем прачытаў Я. Брыля „Золак убачаны здалёк" — успаміны пра маленства, напісаныя яркай і сакавітай мовай.

Зноў дождж. Мой дзённік стаў запісам зводкі пагоды. Такі ж аднастайны і нудны.

**25.XI.** Едзем з Любашай у Маскву. Мо ўдасца там і ёй, і мне пракансультавацца ў дактароў, бо са здароўем справы кепскія.

Даўней пра нікудышняга чалавека гаварылі, што яму нельга даверыць нават пугу пастуха, быццам работа пастуха — самая простая. А я помню, што мяне дзед вучыў пасвіць кароў, вывучаць іх нораў, намеры. І трэба сказаць, што гэта не такая простая навука. Усё часцей абступаюць мяне ўспаміны пра бацькоў, пра сяброў, якія адышлі ў вечнасць. Ды і мне пара завяршаць свае зямныя справы, а то я іх нагрувашчваю, быццам збіраюся на другое жыццё.

**3.XII.** Прачытаў аповесць у вершах Еўтушэнкі. Рэч даўжэзная, банальная і нудная.

Выпаў першы снег. Званкі з Масквы, Кіева, Вільні. Прыехалі мае мядзяльшчане — супрацоўнікі музея народнай славы. Нагрузіў я іх рознымі рукапісамі, здымкамі, дакументамі, якія збіраўся здаць у архіў.

**8.XII.** Поўнач. У хаце сцюдзёна. Ніяк не магу ўзяцца за ацяпленне вокан, бо наперадзе — яшчэ не такія халады і завеі.

Знайшоў цікавыя даныя аб даваенных тыражах у Польшчы. Так, М. Чухноўскага „Раніца горычы" — 170 экз., „Жанчыны і коні" — 150 экз. Шэсць яго зборнікаў — каля тысячы экземпляраў. Нават мае першыя зборнікі ў той час выходзілі значна большымі тыражамі.

***(працяг будзе)***

**Васіль Сакоўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

***(працяг; пачатак у 18 н-ры)***

Пасялілі дзедаву сям'ю і іншых нашых вяскоўцаў у казацка-хахлацкім хутары Табуншчыкоў, ён жа і Табунцы. Недалёка хутара быў *Пороховой завод имени Попова*. Там Амяльян і ўладкаваўся на работу, і не найчарнейшым чорнарабочым, а цеслем. На гэтым заводзе пачалі працаваць і старэйшыя члены дзедавай сям'і. Наймалодшы Віктар пачаў вучыцца ў мясцовай пачатковай школе, а яго сястра Ксеня — у Новачаркаскай гімназіі.

Так распачаўся новы этап у жыцці дзедавай сям'і. З дня на дзень пасля трагічных бежанскіх дарог і страты найбліжэйшых, яна пачала паманеньку апраўляцца-абжывацца. Папраўлялася таксама яе матэрыяльнае становішча.

Усе дарослыя працавалі і рэгулярна атрымоўвалі зарплату, а за грошы спачатку можна было купіць усё. Высакаякасных прадуктаў, напрыклад, было там мноства і цэны на іх былі вельмі нізкія. І так больш-менш было ў іншых бежанскіх сем'ях.

Стаўленне мясцовага насельніцтва і мясцовых улад да нашых бежанцаў было прыхільнае. У кожным разе дыскрымінацыі ці неталерантнасці ў адносінах да нашых бежанцаў там не наглядалася, хаця яны былі зусім рознымі людзьмі — з іншымі характарамі, звычаямі, традыцыямі, культурай і мовай.

Даволі цікава, па-мойму, выглядае супастаўленне нашых бежанцаў з тамашнімі расіянамі. У матэрыяльным сэнсе жылі яны будзь здароў у параўнанні з нашымі, бо, зрэшты, і ўмовы мелі зусім іншыя. А вось з навукай яны ўступалі нашым І не таму, што былі можа менш здольнымі ад нашых, а таму, што навука ў іх была ў меншай пашане, чымсьці ў нашых дзядоў і прадзедаў. Канешне, далёка не ўсе і ў нас рваліся да навукі, часам не рваліся нават тыя, якія без большых клопатаў маглі здабыць яе. Многія аднак хацелі і здабывалі.

Мой дзед не лічыўся дома цеслем, а там на заводзе ўхітрыўся атрымаць працу цеслі. Так рабілі і многія іншыя нашы людзі. Працы ж сякеркай не параўнаеш з працай, напрыклад, лапатай ці заняткам грузчыка. І з зарплатай. А ўжо хто з нашых меў нейкую адукацыю, то вельмі ахвотна давалі там канцылярскую работу, нават непаўналетнім, бо там не хапала адукаваных людзей.

Было чаму навучыцца казакам у нашых дзядоў-прадзедаў і ў некаторых гаспадарскіх справах. Сярод нашых землякоў многа было выдатных майстроў розных прафесій, якія выконвалі сваю работу дакладна, прыгожа, з вялікім густам, а там часта рабілася груба, без густу, з-пад сякеры, як кажуць.

Расказвалі мне нашы, што там нават свіней карміць як трэба не ўмелі. У нас, напрыклад, свіней заўсёды дзялілі на кормных і надворных. Кожная з гэтых груп карысталася зусім іншым статусам. Нашы кормныя — гэта свінская арыстакратыя, а надворныя — пралетарыят. Ежу кормных проста было немагчыма параўнаць з кормам надворных. А там такога падзелу не было. Усе іх свінні тварылі адну надворна-кормную групу, з адным статусам і адной стравай. Страва гэтая была добрая, бо залатога збожжа было ў іх мноства. (На некалькі гадоў сталі немалочаныя стагі. Зверху такі стог быў аж чорны ад старасці, але ў сярэдзіне збажына была здаровая. Падобна і мышы яе не елі, а вось чаму — не ведаю. Ці былі больш культурныя ад нашых, ці іх там не было.)

Хадзілі іх свінні ў стадзе і па двары. Калі трэба было, бралі такое свінчо і забівалі, адразу дзелячыся мясам з суседзямі. Перападала часам і нашым бежанцам. Потым тое самае рабіў сусед, за ім наступны і гэтак далей. Свежае мяса, падобна, не пераводзілася ў іх на стале. Аднак такі спосаб прадукцыі свінога мяса нават на дарэвалюцыйныя часы быў ужо моцна ўстарэлым, нээканамічным.

Гэта нашы людзі навучылі іх, што перад тым, як закалоць, трэба адлучыць ад стада, пасадзіць у цесную кватэру і інтэнсіўна карміць нейкі час. Эфект вялікі, хуткі і бясспрэчны.

І *дзюжэ* здзівіліся ваяўнічыя казакі свінячай натуры, пасля гэтага, не знаходзячы ні сэнсу, ні логікі ў свінячых паводзінах. Найвыразней людзі паступаюць з імі па-свінску: адрываюць ад кампаніі, а істоты гэта надзвычай кампанейскія, ад волі, прыроды, замыкаюць у цесныя і цёмныя кватэры, а яны замест таго, каб пагнявацца, абразіцца і калі не здохнуць, то хаця б змарнець на целе, адплачваюць няўдзячнаму чалавеку хуткім прыростам смачных мясных кілаграмаў. Праўду кажучы і мяне здзіўляюць такія іх паводзіны.

Так наш народ пачаў паманеньку прыжывацца ў новых месцах. Гэты сімбіёз з мясцовым насельніцтвам часта даваў, як бачым, добрыя рэзультаты. У многіх месцах нашы бежанцы ў матэрыяльных адносінах пачалі лепей жыць, як жылі дома, хаця гэта быў цяжкі час для Расіі — яна вяла крывапралітную вайну.

***(працяг будзе)***



*А нам — шкада лета.* Фота Сяргея Грынявіцкага

# Радзіма — Родзіна

**Частка LVIII**

Сёння прыводжу выказванні Антона Адамовіча аб радзіме, якія датычаць трактоўкі гэтай з'явы беларускімі эміграантамі пасля другой сусветнай вайны, калі вялікія групы беларусаў апынуліся ў многіх краінах Заходняй Эўропы і Амерыкі.

„Ніякія абставіны не звальняюць чалавека з абавязку думаць аб Радзіме, паставаць яе ў сэрцы незалежна ад таго, ці чалавек жыве на роднай зямлі, ці ў выніку гістарычных прысудаў апынуўся далёка ад Айчыны. Калі вас, спадар Алесь, цікавіць наш спосаб думання аб Радзіме, трактоўкі Радзімы ды інтэрпрэтацыі Радзімы, дык раджу вам, каб вы вярнуліся да ўступнага артыкула ў газеце „Бацькаўшчына", якую беларусы пачалі выдаваць у Заходняй Германіі ў 1947 годзе. Ужо сам факт, што мы гэтае выданне назвалі „Бацькаўшчынай", сведчыць аб тым, што для нас, выгнаннікаў, найважнейшы быў не наш уласны лёс, не наша жыццё на чужыне, а толькі лёс нашай Радзімы. Вось таму мы назвалі газету „Бацькаўшчынай". Прачытайце, калі ласка дакладна ўступны артыкул у першым нумары „Бацькаўшчыны".

Ідучы за прапановай Антона Адамовіча, прыводжу сёння вялікі фрагмент гэтага артыкула:

„І ўсё-ткі мы важымся сяньня напісаць тут на сваім сьцягу толькі гэтае адно-адзінае слова — „Бацькаўшчына". І ўсё-ткі мы важымся цьвердзіць, што ня мае права чалавек, ды й ня можа проста, адвярнуцца ад свае Айчыны, разарваць зь ёй усё, як ня могуць, ня ў стане навет адвярнуць і адлучыць яго ад яе ніякія ў свеце гвалты, ніякія зялезныя заслоны ці запоны.

Бо Бацькаўшчына — гэта-ж ня толькі зямля бацькоў і бацькоў бацькоў, аж углыбкі сівых пакаленьняў. Бо Бацькаўшчына — гэта найперш уся спадчына гэных пакаленьняў, увесь духовы набытак іх, пераказваны з роду ў род і не дзеля таго, каб яго занядбаць, ці зусім выкінуць, ці схаваць, закапаць у зямлю назаўсёды, а якраз на тое, каб пашыраць і павялічваць, памнажаць і пераказваць далей нашчадзі. І гэткая Бацькаўшчына — не ў зямлі, а ў людзях першым і галоўным чынам. Яна ў нас самых, у нашых душах, і ад Яе ня можам, „як рукі, як вока", як ніхтіра пяець аб гэтым адна нашая прасьценькая, дзіцячая можа навет, а глыбока-праўдзівая нацыянальная песенька.

Так, запраўдная Бацькаўшчына — гэта найперш людзі, гэта й мы таксама. І хіба ня мы тут, на чужыне, сяньня толькі можам і маем, але навет проста мусім быць спадкаёмцамі, і перахавальнікамі, і памнажальнікамі-разьвівальнікамі ды далейшымі пераказьнікамі тае спадчыны бацькаўскіх і дзядоўскіх-прадзедаўскіх пакаленьняў? Хіба ня мы першым чынам, і хіба ня мы навет бадай адзіныя? Бо-ж гісторыя сяньня павярнулася так, што там, на зямлі бацькоў, якраз няма месца гэтай запраўднай Бацькаўшчыне, — няма месца пад сонцам, хіба што ў глыбокіх падзямельлях, хіба што ў глухмяні пушчаў-лясоў, хіба што сярод дзічыні балатоў-багнаў, дый то да часу толькі, пакуль не асочa, не апора і ня выпара адтуль пройда-чужынец, кат-прыблуда. Бо гэная вядзьмарская „дыялектыка", распаношыўшыся чыста біблейнай „гідасьцяй запусьценьня на сьвятым месцы тым", устанавіла сяньня **запраўдную чужыну на нашай Бацькаўшчыне**. І ці-ж не адзіным адказам на гэта, ці не адзіным ратункам мусіць быць адваротнае — станаўленьне й згуртаваньне **Бацькаўшчын на Чужынох?** Да гэтага мы й хочам імкнуцца, да гэтага будзем заклікаць і ўсяляк прычыняцца праз гэтую, зь вялікімі цяжкасьцямі нарэшце здабытую трыбуну свае нацыянальнае газэты. Хай-жа й будзе гэта такая трыбуна Бацькаўшчыны на чужыне!

Але ў гэтай-жа роўніцы ляжыць абавязак і ня толькі ўсіх нас, як нацыянальнае й грамадзкае цэласьці з усімі ейнымі органамі й пляцоўкамі, а й павіннасьць кажнага з нас, кажнага суродзіча упаасобку. Нашыя сябры ў долі-нядолі, „перамяшчэньцы" іншых народаў — Украінцы, Летувісы, Палякі, Рассейцы і інш., якім пашчасьціла раней за нас здабыць сваю нацыянальную прэсу, уже даўно й намагальна арыентуюць праз яе сваіх суродзічаў-эмігрантаў у тым адзіна-правільным кірунку, што **кажны выгнанец мусіць стацца сьведамым адказнасьці прадстаўніком і паслом-амбасадарам свае запраўднае Бацькаўшчыны**. Гэтае заданьне ня менш актуальнае й для кажнага з нас, і стала нагадваць на яго нашым суродзічам ды адпаведна зброіць іх дзеля выкананьня гэтае важнае й разам пачэснае ролі — таксама будзе нашым заўсёдным імкненьнем.

І яшчэ адно, гэтым разам апошняе. Ставячы наперад Бацькаўшчыну, як людзей, мы зусім не манімося зракацца й бацькаўскае зямлі, адварочвацца ад родных бацькаўскіх гоняў ці прапаведваць такое зрачэньне й адварот. Мы толькі цьвёрда перакананыя, што зварот гэным гоням іхнага запраўды роднага й бацькаўскага для нас характару можа й мусіць адбыцца адно праз людзей, што самыя захаваюць у сабе гэты характар, захаваюць як тут, у нас, так і там, на сяньняшняй чужыне — на бацькаўшчыне. Мы глыбака верым у вешчыя словы нашага Прарока — у прасякнуты сьветлай надзеяй запеў нашага гімну: **„Не загіне Край Забраны, пакуль будуць людзі!"**

І нам таксама верыцца й роіцца тое, пра што натхненна-візіяністычна пяяў адзін із нашых паэтаў-пакутнікаў якраз дваццаць год таму:

*Будзе дзень сьвяточны, Дзень Другога Прыйсьця,*
*Прыйдуць Маці з Сынам, на услоне сядуць.*
*Расшумяцца клёны, расшумяцца лісьце,*
*Будзе сьвяткаваньне песеннае ў садзе.*

*Прыйдуць зь песьняй тыя, што сабе ня лгалі,*
*Што сьлязу ранялі на сырым кургане.*
*Параходы ў ходзе падаюць сыгналы,*
*Размываюць хвалі цёс гранітных граняў.*

Сяньня, і для нас, эмігрантаў, гэтыя словы набіраюць і яшчэ спэцыфічнага й пры тым вельмі рэальнага адценьня, аб якім пэўна ня думаў, дый ня мог думаць тады паэта. Але сяньня ўжо мы чуем у іх сыгналы ня толькі аддаленьня-адплыцьця яшчэ далей ад родных берагоў, адплыцьця нямінучага, пэўнаж, для шмат каго з нас, — але й магутную пабудку, што скліча нас некалі-хоць і з краю сьвету — на вялікі Дзень Другога Прыйсьця, на сьвяткаваньне песеннае ў садзе бацькоўскім — да Маці-Краіны.

Адно няхай Яна — Бацькаўшчына-Маці — вечна будзе з намі і ў нас, у сэрцах, у душах, у думах і ў чынах нашых. І няхай станецца!"

**Алесь Барскі**

# Сэрца і галава ў дыскусіі

У 33 н-ры „Нівы" ў допісе Зофіі В. пад загалоўкам „Nie wszczynać waśni" маецца такі абзац: *Pan M. Gurynowicz pisze, że słowo „prawosławny" to rzecz święta. Nie neguję tego, nawet Józef Stalin był prawosławnym, a do tego skończył prawosławne seminarium duchowne. Czy i on dla p. Gurynowicza też jest świętym?*

Менавіта ў старажытнай Грэцыі былі т.зв. сафісты, якія за адпаведную плату браліся даказваць любы тэзіс (нават такі, што чорнае — гэта белае і наадварот). Такое магчымае з-за недакладнасці натуральных моў, словы якіх шматзначныя. Вось прыклад мыслення такога тыпу: кожны араб — семіт, а паколькі кожны яўрэй з'яўляецца ворагам араба, тады кожны яўрэй — антысеміт.

Апрача таго існуе паняцце паэтычнай гіпербалы, інакш кажучы паэтычнага перабольшання, якога нельга прымяняць у кожнай сітуацыі, напрыклад ва ўрадавых дакументах ці законах. Пачнем тады вівісекцыю згаданага абзаца са слова „святая". Праўду кажучы **святы** ёсць толькі Гасподзь Бог і ніхто больш. Калі ёсць Святыя Гасподнія, дык толькі таму, што іх абагатварылі. Асабліва часта слова святы прымяняецца ў пераносным сэнсе, калі гавораць пра родную зямлю.

Długo spała Polska *święta*.
Długo Biały Orzeł spał.
Lecz się ocknął i spamiętał,
Że on kiedyś wolność miał.
*(песня XIX стагоддзя)*

Грэкі ўсхваляюць святую зямлю Элады, расіяне — святыя вароты Крамля:

Кто гордец не снимет шапку
у *святых* Кремля ворот.

Аднак жа калі Бог ёсць Праўда, тады самай святой справай павінна быць змаганне з хлуснёй. Так вось Іосіф Джугашвілі (Сталін) быў праваслаўным **часова**, да свайго поўнага вераадступніцтва, калі стаў разбураць храмы і знішчаць свяшчэннікаў. Праўда, яго ахрысцілі і вучыўся ён у праваслаўнай духоўнай семінарыі, але, насуперак пані Зофіі В., школы не закончыў і не быў рукапаложаны ў духоўны сан. Калі б не тое, што Руская Царква падвяргалася страшэннаму тэрору, то пры жыцці яго адлучылі б ад Царквы, так як гэта зрабілі з пісьменнікам Львом Талстым.

Трэба таксама прыгадаць, што Галілей, які не пагаджаўся з навукай Заходняга Касцёла ў справе астраноміі, быў у сапраўднасці рымскім католікам. Трэба адкінуць стэрэатыпнае мысленне, што паляк — гэта католік, рускі — праваслаўны (толькі з XI ст.), а немец — евангеліст. Прыгадайма, што да Контррэфармацыі большасць польскай шляхты, асабліва ў Вялікім княстве Літоўскім, была пратэстантамі. Пратэстантам быў таксама і Юзэф Пілсудскі.

Збавіцель, Мадонна, першыя Апосталы былі яўрэямі. Што было б, калі б тады яўрэі сказалі: „Хрыстос ёсць наш, збавенне таксама наша, а тады калі нехта ўвойдзе ў круг семіта-хаміцкіх моў, няхай стане семітам, альбо прэч яму ад нашай рэлігіі! Забараняем таксама спраўляць набажэнствы на іншай мове, чым тая, на якой створана Свяшчэннае Пісанне!" Прыгадайма, што аж да II Ватыканскага сабору нельга было ў рымска-каталіцкіх касцёлах ужываць іншых моў чым латынь, і папраўдзе польскі народ дэнацыяналізаваўся...

Сустракаюцца ў свеце народы, якія дабравольна дэнацыяналізуюцца, а прыкладам гэтаму — апрача Рэспублікі Беларусь — можа паслужыць Ірландыя, у якой большасць грамадзян не ведае роднай мовы, толькі англійскую.

Карацей кажучы, уся дыскусія ў „Ніве" круціцца вакол важнасці і значэння паняццяў **веравызнанне** і **мова** і адносін да **змяненняў** у сітуацыі. Моў (і патрыятызмаў) на свеце ёсць каля пяці тысяч, а веравызнанняў — не больш за сто (разам з важнейшымі сектамі).

Хор з Пружаны праспяваў у Гайнаўцы гімн „Все народы сотворил Господь" (усе мовы — Боскае тварэнне і таму на ўсіх мовах павінен спявацца гімн Творцу). Мовы нараджаюцца і паміраюць, напрыклад, старажытнаегіпецкая, старажытнагрэчаская, латынь, старажытнаверхненямецкая і іншыя. Нягледзячы на гэта, мова складае сваю вартасць, паколькі з'яўляецца памостам паміж мінулым і цяперашнім днём, паміж традыцыяй і футуралогіяй. Вельмі павучальнай можа быць сітуацыя ў мешаных сем'ях. Возьмем для прыкладу вокладку амерыканскага часопіса „Newsweek" ад 9-26 жніўня г.г., на якой красуецца здымак спадарыні Крысціны Аманпур — дачкі іранца і англічанкі. Працуе яна ў тэлекампаніі CNN і часта даводзіцца ёй распытваць калег пра невядомыя ёй ідыёмы (моўныя звароты). Каму тады яна будзе пятай калонай? Гляньма яшчэ на Абхазію ля Чорнага мора: нядаўна ў Сухумі віселі шыльды на трох мовах і трох алфавітах — рускім, грузінскім і абхазскім.

Калі мовы не прападаюць у выніку галакосту (пагалоўнага знішчэння іх носьбітаў), тады іхні лёс залежыць ад подзвігу патрыётаў у культываванні мовы продкаў. Перш за ўсё клапоцца аб тым інтэлігенцыя (калісь — шляхта). Калі пасля знішчэння інтэлігенцыі беларускі народ захоча стаць рускай нацыяй, нічога не зробіш. А калі ўсё праваслаўнае Падляшша пачне гаварыць па-польску, тады праваслаўныя палякі стануць нормай, а не выключэннем. І не будуць яны пятай калонай. Так дзееца па ўсім шырокім свеце, што эмігранты гавораць на чужыне на сваёй роднай мове, іх дзеці карыстаюцца ўжо дзвюма мовамі, а ўнукі наогул мовы продкаў не разумеюць.

Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы — доказ таму, што Мадонна мае ў асаблівай апецы праваслаўных у Польшчы і неадно яшчэ для іх трымае за пазухай. Не бойся, малы статак!..

**Серафін Корчак-Міхалеўскі**

# Дайце людзям дапамогу

**Калі назіраць чаргу асоб, якія прыходзяць у касу МОПС — Гарадскога асяродка грамадскай апекі ў Беластоку, можна заўважыць пэўную тыповасць: перад намі ў дні выплат успамог стаяць людзі пакрыўджаныя і слабыя. Бездапаможныя. Хто займаецца справай доўгі час, скажа: цэлымі пакаленнямі некаторыя сюды прыходзяць.**

Бездапаможныя. Такія, што чакаюць дапамогу. Каму ніхто іншы не падасць руку. Зрэдчас — жанчына, якая самотна выхоўвае дзяцей, апушчаны пенсіянер, калека, беспрацоўны, бяздомны. Але вялікая большасць гэта тыя, якія самі з сабой не спраўляюцца. Рукі трасуцца ў нестарога яшчэ, калісьці вельмі прыгожага, з арыстакратычнымі рысамі твару, мужчыны, патыхае ад яго гарэлачным перагарам, сіпла прыгаварваючы матам, шукае сваё месца ў чарзе (быццам заняла яго раней) жанчына, саракагадовая, але з тварам бабулі...

— Бывае, што сапраўды прыходзяць пакаленнямі, — кажа пані Барбара Чарнэцкая, працаўнік апекі з VI амбулаторыі ў Беластоку. — Але мусім усім, сапраўды патрабуючым дапамогі, гэтую дапамогу даць. Трэба спачатку разгледзець усе справы, пабачыць на ўласныя вочы, у якіх умовах тыя людзі жывуць, распытаць пра жыццёвыя абставіны, і вырашыць, якая дапамога будзе для іх найбольш карысная, каб зусім не скаціліся на дно, хаця некатарыя ўжо на ім даўно, вельмі часта па сваёй віне, і то дзесяцігоддзямі.

Бывае, што ад дзеда-бабы прывыклі да таго, што дзяржава мае абавязак **даваць**. Што цікава, самі для свае краіны зашмат не маюць што ахвяраваць, хіба што прыбытак для дзяржаўнае манаполіі: Галена Фігель не мае на хлеб для дзяцей, але найменш пачку папярос у дзень выкурвае. Міхал Сэнк, перш за ўсё, адразу з чаргі ў МОПСе бяжыць на базар да „рускіх" па „Раял". За руку ж не будзеш іх вадзіць...

Надарылася і мне мець бліжэйшыя сувязі з „апекай", як судоваму грамадскаму куратару. Стаю за дапамогай для маёй падапечнай. Чарга велікаватая, хоць касірка хутка з ёю спраўляецца (сёння працуе адно акенца). Сачу за адной парай: дзядуля ў капелюшыку з пакамечаным брылём прыйшоў са сваёй суседкай.

— Я вас прашу ўжо амаль год, каб вы зрабілі новы пашпарт, — просіць касірка, беручы ў далоні растрэпаныя, брудныя картачкі, якія раней былі пасведчаннем. Дзед вінавата топчацца, хрумстае сваімі пакручанымі раматусам пальцамі. Бабуля, зусім яшчэ маладая, мажная, крычыць з канца чаргі, у дзвярах:

— То ж яму ногі адняло, хадзіць не можа. Няма як здымак зрабіць, хадзіць вырабляць той пашпарт. Калі б не я, — звяртаецца да ўсіх прысутных, — то зусім прапаў бы той стары дурань. Добра, што яшчэ ёсць сумленныя людзі на свеце, што чалавеку дапамогуць!

„Апякунка" ганарліва пазірае на чаргу, а „стары дурань" засоўвае 4 мільёны ў кішэнь старога пінжачка і роўным крокам ідзе да выхаду. Сумленная суседка зграбае яго пад сваю салідную паху і валачэ на двор.

— А што такое з вамі, цяпер ужо рука паламаная? — цікавіцца касірка брудным гіпсам на левай руцэ наступнай кліенткі, амаль бяззубай маладзіцы. — Месяц таму у вас нага была, здаецца, правая, паламаная.

— От так, бывае ж, упала, — вышчэрваецца пані. — Добра, што не правая, то хоць працаваць магу.

— Ведаю я вашу працу, пані Камёнак, — бурчыць цётка за ёю.

Зусім разгублены дзве маладыя жанчыны. Адна не ўзяла ўсіх папераў (рашэнняў на дапамогу), другая збянтэжаная, што аж столькі грошай ёй далі. Відна голым вокам, што няёмка было ім увогуле прасіць дапамогу, што не звыкліся да чужых за чым-кольвек звяртацца. Відна, першы раз тут яны. З нясмелай цікаўнасцю пазіраюць на іншых, і хутка ўцякаюць, не пералічваючы банкнотаў, ад касы.

— Ой, тут „бывальцы" паводзяць сябе як дома, — усміхаецца адна з працаўніц у сакратарыяце. — Адносяцца да нас як да свае сям'і, вельмі ж бесцырымонна. „To mi się należy!" — і ўсё. „Не маю што есці!" — „То ж два тыдні таму мы далі вам мільён. Ку ды ж вы яго падзелі?" — „Мільён — гэта грошы? Што за іх купіш?" Што праўда, то праўда: сёння большасць людзей у горадзе, у краіне — бедныя, і іх штораз больш. І неяк трэба падзяліць між іх тыя марныя грошы з дзяржаўнага бюджэту, якія можа яна даць...

Стаяць побач двух мужчын.

— Ну, калі дойдзе наша чарга!? Працуе тая б..., як муха ў смале, — з перакураных бронхаў разам з кашлем вырываюцца словы пана, назавем яго „баксёрам" з-за перабітага носа.

— Гэтыя к... паставалі, дзяцей навалаклі! Сп...ць хутка!

Ажыўляецца дама з сівым хвосцікам, туга перашчыкнутым чорнай гумкай.

— О, Олесь, kochanie! Я цябе пачакаю, пойдзем разам на каву. Трэба якась справу прапаласнуць.

На „прапаласканне" „выплаты" давядзецца ёй пачакаць. У Олеся няма ўсіх дакументаў. З гэтай прычыны касірка і ўсе жанчыны ў свеце атрымліваюць салідную порцыю сочных эпітэтаў. Затым раз'юшаны Олесь кідаецца на пакой кіраўніцтва. Я — за ім. Олесь вішчыць, з рукамі ў святым адчаю і ярасці ўскінутымі да столі: „Дзе тая б..., шэфова?!"

Кіраўніцтва хаваецца за пісьменным сталом. Олесь хапае тэлефон, валіць ім аб стол, а трубка прызямляецца на галаве жанчыны...

— Але такія жахлівыя сцэны, усё ж, у нас бываюць досыць рэдка, — супакойвае мяне сакратарка. — Але рознае можна пабачыць „w terenie".

Наведванне „тэрэну" можна адхварэць, калі ў чалавека няма псіхічных схільнасцяў і моцы, каб спакойна на ўсё глядзець, рэагаваць і рэальна ды практычна дзейнічаць. А потым лёгка спаць. Наглядзішся на такую бяду, на такі матэрыяльны і маральны бруд, што, асабліва будучы пачаткоўцам, вельмі ўсё гэта перажываеш. Пакінутыя блізкімі бездапаможныя старэчы, бяздомныя, разбітыя сем'і. Бывае так, што бацькі п'юць непрабудна, а старэйшы брат ці сястра ходзяць па вуліцы, просяць у людзей хлеба ці трошкі цукру, каб прыгатаваць немаўляці што-кольвек паесці. Трэба разабрацца ў справе, аказаць адпаведную дапамогу, найбольш карысную ў такой сітуацыі. Ці матэрыяльную ўспамогу, ці апеку, ці пасляць у дом для пенсіянераў... Дзяцей — у дзетдом ці ў іншую сям'ю, бацькоў — на лячэнне для алкаголікаў. Але сілай нічога не зробіш. Чалавек павінен разумець сваю сітуацыю і таксама старацца выбрацца наверх.

На „каву" запрашаю паню Мар'янну, вельмі ж расчараваную, што яе сябра забрала паліцыя.

— „Кавуся", *оўшам*. Але трохі мне перасохла ў горле. За гарэліцай не прападаю, у добрай кампаніі ахвотна пакаштую сухое чырвонае вінцо. Маю добры густ.

Не, пані Мар'янна не п'е без прычыны. З гора папівае сабе, але ж не напіваецца.

— Адна я цяпер, як былінка ў полі. Мужа сын табурэткай забіў, шаснаццаць гадоў ужо Ясю, то мог заступіцца. А то валіў мяне мой Франак без дайпрычыны. А то абед не гатовы, а то пасядзела ў сяброўкі... А сам жа каханак меў, у камандзіроўкі ездзіў, то „гдзе строна, там нажэчона". Паб'емся, пакахаемся, вядома, як у сям'і. Вызву паліцыю, павязуць яго да „матысякаў", потым плаціць трэба за выцвярэзнік. Пасля пастаянную бабу сабе знайшоў, то зусім звар'яцеў. Я ў ткальні працавала, на дзве змены. Прыйшла, а ў маёй пасцелі якаясь сцерва голая качаецца. Кажу, „вон, здзіра", і як не ўхаплю яе за кудлы! А Франак — за табурэтку. Ясь у сваім пакоі сядзеў. Выскачыў, выхапіў столак бацьку, і так яму натоўк, што аж ножкі паадляталі. Тая к... выбегла ў адных майтках. Франак абцёр галаву ручніком, выпіў рэшту гарэлкі і пайшоў у спальню. Не ўстаў.

Слухаю прамову пані Мар'янны, а тая аж вочы заплюшчыла, з келіхам парожнім узнятым уверх успамінае:

— Вядома, паліцыя, „пагатове" былі. Ясь — добры сын, за матку ўступіўся...

— То чаму ён у „папраўчаку"?

— Яны ўмеюць прычапіцца. Дзесьці з хлопцамі раней быў на дыскатэцы. Не ён гвалтаваў, але ж і нічога не хацеў сказаць паліцыі. А што, меў можа бегчы на паліцыю, з языком, што яго сябры ўзяліся за дзеўку? Сама хацела, чаго палезла на тую дыскатэку і напілася, як сноп? І лезла сама да іх у машыну. Адразу відна, чаго ёй было трэба: міні ледзь с... закрывае, цыцкі голыя, пуп наверсе. Хто не скажа, што „лепшая"? І хлопцы, тыя старэйшыя, сядзяць, а мой Ясь — у калоніі. Так мне цяжка без яго... Добры такі сын мой Ясь.

Мар'янна апаражняе бутэльку.

— Ну, з мяне хопіць. Іду да сяброўкі. Шкада, што Олесь так сёння расхадзіўся, а то вечар мела б цікавейшы. Олесь добры *хлоп*, але сам з сабою не можа справіцца...

**Міра Лукша**

*(Прозвішчы герояў зменены.)*

# У Калінінградзе Ленін вечна жывы

У Калінінградскай вобласці Барыс Ельцын выйграў выбары, здабываючы амаль 70% галасоў. На пытанне, ці што ў горадзе над Прэголяю змянілася, пачуць можна адказ: нічога, а што мела змяніцца. Праўда, бываючы ў гэтым горадзе, заўважаецца, што прыбыло замежных рэкламаў, піва перастала быць рарытэтам, а і на вуліцах відаць больш дарагіх, але старых, заходніх легкавушак; пешаходы з'едліва заўважаюць, што палова апошніх крадзеная.

Руськія працуюць як у Амерыцы: ад 9 раніцы да 18 пасля абеду з паўгадзінным перапынкам. Падчас таго перапынку фірмы не функцыяніруюць, а банкі закрыты. Калі хочаш неадкладна памяняць валюту, мусіш гэта зрабіць у валютчыкаў. Яны ж, так як калісь і ў нас, любяць надта абдурыць замежніка, „памылаючыся" так, што і на хлеб бедалазе можа не хапіць. Вось і майму сябру пагражала такое, але асвядоміў яго прысутны пры гэтым грузін Мурдас Шэнгелія. Запрасілі мы яго на абед.

Мурдас Шэнгелія робіць на фабрыцы, якая працуе на трэць свае моцы. „Наш" грузін, аднак, добрай думкі, бо ў Калінінград паволі прабіваецца замежны капітал, і мае надзею, што вернецца на радзіму з мяшком грошай. А пакуль што, Расія паводзіць сябе, як сватаная прынцэса, да якой заляцаюцца найпрыгажэйшыя кавалеры; ад Польшчы па Амерыку. Прадстаўніку ўлад Ольштына запрапанавалі ў Калінінградзе продаж аднаго будынка за ... паўмільёна долараў! Калі нашаму пакупніку аж дух заперла ад такой прапановы, паяснілі яму, што амерыканцы даюць яшчэ больш. Праўда, аднак, такая, што будынак далей чакае купца.

Па валавой велічыні замежных інвестыцый у Калінінградскай вобласці Польшча займае толькі чацвёртае месца, уступаючы Нямеччыне, Літве і Беларусі, якая на ... першым месцы! Палякі затое маюць тутака найбольш прадпрыемстваў.

Здзівіла мяне, што на газетах няма цэнаў, а на іх месцы напісана, што цэны дагаворныя. Паяснілі мне, што гэта з-за інфляцыі.

Надта асабліва ідзе тут рамонт славутай кёнігсбергскай кафедры. Праводзіцца ён за нямецкія грошы розных фондаў і прыватных асоб; бонскі ўрад на гэта грошай не дае. Цяперака ўстаўляюць вітражы, хаця няма даху над галоўным нефам святыні. Там, дзе ён ёсць, растуць бярозкі...

Толькі Ленін стаіць непарушна, так, як і стаяў дагэтуль, хаця перад выбарамі Ельцын заклаў краевугольны камень пад будову царквы.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Раз — гэта мала...

У „Ніве" ад 15 верасня г.г. (н-р 37) прачытаў я публікацыю пад загалоўкам „Людзі горшыя за звяроў". Аб праблеме бяздомных сабак і я пісаў ужо раней (глядзі „Ніва" ад 7 лютага 1996 г. — „Сабакі надалей гуляюць").

Аўтар (ак) падае прыклад, што сабакі загрызлі ў Чыжах дзве ялоўкі і пытаецца, хто заплаціць гаспадару кампенсацыю. Нядаўна я сам бачыў, як у Чаромсе на рыначку чатыры сабакі напалі на старэчу. Ледзь абараніўся. Бачылі гэта і іншыя людзі, якія асуджаюць гаспадароў чатырохногіх. Адна знаёмая сказала, што калі звярнула ўвагу суседцы, каб не пускала сваіх сабак, тая вельмі пакрыўдзілася і да гэтага часу крывым вокам на яе пазірае. Пасля маёй інфармацыі я гаварыў аб праблеме з супрацоўніцамі гміны. Сакратар управы сказала, што гміна паведаміла жыхароў пасёлка, каб не пускалі на вуліцу сабак, бо будуць іх вылаўліваць. І сапраўды, аднойчы лавілі і стралялі. Але за адзін раз усіх не вылапалі. Тады хацелася б напомніць гміннай управе і паліцыі, каб з належнай увагай ставіліся да праблемы бяздомных сабак. Тое, што здарылася, няхай будзе ім перасцярогай. Ялоўка, гэта не чалавек. Аднак і з чалавекам можа тое ж самае здарыцца. Дзе тады прыйдзецца шукаць віноўных? **(ус)**

# Позірк у мінулае

**29 верасня**

1529 г. — уступіў у сілу першы Статут Вялікага княства Літоўскага.

1547 г. — нар. Мігель дэ Сервантэс, іспанскі пісьменнік.

1853 г. — пачатак першай крымскай вайны між Расіяй і Турцыяй.

1864 г. — нар. Мігель дэ Унамуна, іспанскі пісьменнік.

1901 г. — нар. Энрыка Фермі, італьянскі фізік.

1912 г. — нар. Мікеланджэла Антаніёні, італьянскі рэжысёр.

1913 г. — памёр Рудольф Дызель, нямецкі аўтаканструктар.

1930 г. — памёр Ілья Рэпін, расейскі мастак.

1938 г. — у Мюнхене падпісана дагавор паміж Вялікабрытаніяй, Францыяй, Італіяй і Германіяй аб анекатаванні апошняй Судэтаў — часткі Чэхаславакіі.

1943 г. — нар. Лех Валэнса, польскі палітык.

1977 г. — Каталонія нанава атрымала аўтаномію ў рамках Іспаніі.

**30 верасня**

1901 г. — у Францыі ўведзена закон, у сілу якога аўтамабілі, якія перавышаюць хуткасць 30 км/гадз., павінны мець рэгістрацыйныя таблiцы.

1931 г. — нар. паэт Ніл Гілевіч.

1935 г. — прапрэм'ера мюзікла Джорджа Гершвіна *Porgy and Bess*.

1946 г. — у Нюрнбергу міжнародны трыбунал вынес прыгавор нацысцкім ваенным злачынцам; 11 абвінавачаных засуджаны на смерць.

**1 кастрычніка**

1938 г. — нямецкія войскі занялі Судэты.

1949 г. — Мао Цзэ-дун аб'явіў паўстанне Кітайскай Народнай Рэспублікі.

1982 г. — Гельмут Коль у выніку станоўчага вотуму недаверу пакліканы на пост канцлера ФРГ.

**2 кастрычніка**

1869 г. — нар. Махатма Гандзі, індыйскі палітык.

1940 г. — нямецкія нацысты заснавалі гета ў Варшаве.

1941 г. — пачатак наступлення нямецкай групы армій „Цэнтр" на Маскву.

1957 г. — міністр замежных спраў ПНР Адам Рапацкі запрапанаваў стварэнне бяз'ядзернай зоны ў Цэнтральнай Еўропе.

**3 кастрычніка**

1895 г. — нар. Сяргей Ясенін, расейскі паэт.

1935 г. — нападзенне італьянскіх войск на Абісінію.

1990 г. — аб'яднанне ФРГ і ГДР.

**4 кастрычніка**

1582 г. — папа Грыгорый XIII аб'явіў рэформу календара; пасля 4-га кастрычніка наступнай датай было 15 кастрычніка.

1830 г. — Бельгія аб'явіла незалежнасць ад Нідэрландаў.

1937 г. — нар. Франц Враніцкі, аўстрыйскі палітык.

1957 г. — у СССР запушчана *Спутнік-1* — першы рукатворны спадарожнік Зямлі.

1959 г. — у СССР запушчана касмічны апарат *Луннік-3*, які ўпершыню выканаў здымкі нябачнага боку Месяца.

**5 кастрычніка**

1921 г. — у Лондане заснавалася арганізацыя літаратараў PEN Club.

1936 г. — нар. Вацлаў Гавел, чэшскі пісьменнік і палітык. **(Ш)**

# *Парнасік*

## Зямля

Родная зямелька.
Тут я нарадзіўся,
Касіць ды араці
Ў бацькі навучыўся.
Даглядаў зямельку,
Як родную маці.
Казаў сваім дзецям
Зямлю шанаваці.
Мае родны дзеці
Разышліся па свеце —
Ў гарадах вялікіх
Лягчэй стала жыці.
Пра вёску забылі,
Як касіць, араці;
Час ад часу едуць,
Каб каўбаску ўзяці.
Каб каўбаску ўзяці,
Малака напіцца
Ды сваёму шэфу
Вёскай пахваліцца.
Страха абляцела,
Вуглы пахіліліся.
Бацькоў у магіле
Зямлёю накрылі.
Асталіся палеткі,
Зеллем зарастаюць,
Бо нашыя дзеткі
Пра ўсё забываюць...
Пра фальклор, культуру,
Што калісь бывала.
Хай гісторык піша,
Каб усё не прапала.

**Мікалай Лук'янюк**

## Асцярожна з прыродай

Братцы, з прыродай асцярожна,
Бо можа здарыцца рознае.
Яна наш дом дасканалы —
Варт пашаны і найлепшай славы.
Мы прыроду псуем, забруджваем,
Пасля невядома каго праклінаем.
Калі кіслы дождж упадзе,
Наша праца на полі прападзе.
Марнуем лес, як па плану —
Ад гэтага на зямлі будуць раны.
Смурод пускаем у рэчкі
І сядзім ля гарачае печкі.
Бесталкова валім штучнае ўгнаенне...
І як можа быць з прыродай прымірэнне?
Навокал адна звалка, балаган —
Вызваліцца нам з гэтых ран!

**Мікалай Панфілюк**

# Зубры на марках

4 снежня 1996 г. Польская пошта ўвядзе ў абарот чатыры новыя маркі з серыі „Жывёла пад аховай", на якіх будуць паказаны зубры (галовы самца і самкі, пара зуброў і адзінокі самец). Цана кожнай маркі — 55 грошаў. Яны выйдуць тыражом 1 мільён штук пасобнай тэмы.

Таго ж самага дня ў продажы паявяцца чатыры дэкаратыўныя канверты FDC. На пошце ў Белавежы будзе ўжывацца адпаведны акалічнасці штэмпель.

Аўтарам праектаў марак, канвертаў і штэмпеля з'яўляецца мастак Януш Высоцкі.

**Пётр Байко**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 4 646. | Міхал Панфілюк (Нараўка) | — | 50,00 | зл. |
| 4 647. | Уладзіслаў Завадскі (Гайнаўка) | — | 10,00 | зл. |
| 4 648. | Ян Скепка (Гайнаўка) | — | 20,00 | зл. |
| 4 649. | Міраслаў Вішнеўскі (Гайнаўка) | — | 15,00 | зл. |
| 4 650. | Сцяпан Багацэвіч (Быдгашч) | — | 20,00 | зл. |
| 4 651. | Ахвяраванні са скарбонкі ў Музеі | — | 143,29 | зл. |
| 4 652. | Ахвяраванні ўдзельнікаў фэстаў у Чыжах і Орлі | — | 291,41 | зл. |
| 4 653. | Вера і Мікалай Прускія са ЗША | — | 70,00 | дол. ЗША |
| 4 654. | Галена Тапалянская (Трасцянка) | — | 10,00 | зл. |

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне. Сніцца мне, нібыта я хачу аддаць нейкі доўг, грошы свайму суседу. Прыходжу да яго ў хату, а яго няма. Гляджу, а ў гэтай хаце ляжаць, адпачываюць двое мужчын — шафёр і камбайнер. Я гляджу ў вакно і бачу, што на суседавым панадворку вельмі многа жанцоў, якія сярпамі жнуць жыта, а пры гэтым цудоўна спяваюць.

У мяне стварылася такое мілае ўражанне ад гэтага сну, што, калі я прачнулася, дык яшчэ вобраз тых людзей стаяў перад вачыма.

Другі сон быў пра маю маці. Быццам паехала яна ў горад. На вуліцах вялікі рух, а мама ходзіць паміж аўтамабілямі, хоча перайсці на другі бок вуліцы, але не ведае, што ёсць спецыльныя месцы для пераходу.

Я непакоюся, каб не дайшло да трагічнага выпадку.

Што могуць абазначаць мае сны?

**Марыя**

Марыя! Твае сны навеяны рэчаіснасцю і сведчаць аб тваёй далікатнай, чулівай душы.

Першы сон з тымі колішнімі жанцамі, са жніўнымі спевамі і незабыўным характвом гаворыць аб багацці і ўражлівасці тваёй натуры. Ну, бо і сама падумай! Шафёр і камбайнер у тваім сне адпачываюць, а ты бачыш мінулае, як на далоні, тое, што ўжо адышло назаўсёды. Хто ўжо сёння жне сярпамі? А дзе пачуеш песню пры жнівах?! Гэта толькі твае сны такія прыгожыя і каляровыя.

У другім сне цябе непакоіць лёс тваёй маці, якая паехала ў горад. Ты баішся, што вясковая кабета, не прывыклая да гарадской мітусні, можа трапіць пад машыну, ты проста клапоцішся пра лёс маці. А мо яна недамагае? Мо нешта ёй пагражае?.. Ці не закралася ў яе арганізм нейкая хвароба? Думаю, што твае сэрца асцерагае яе...

**Астрон**

# Крыжаванка

**Гарызантальна:** 2. левы прыток Нёмана, 4. састаўная частка, 6. Балеслаў, былы польскі прэзідэнт, 7. месцажыхарства, 9. прыток Волгі, 11. мужчынскі голас, 12. горад на Беласточчыне, 13. рака ў Якуціі, 15. размер зарплаты, 17. шар, 18. сто літраў, 19. раскацістыя гукі.

**Вертыкальна:** 1. гарадок на Беласточчыне, 2. лідэр гурту „Грамада", 3. апошняя літара ў грэчаскім алфавіце, 4. сардэчны лекар, 5. паказвае тэмпературу, 6. уваход у двор, 8. рэлігійная група, 9. малая Анна, 10. насякомае з джалам, 14. рэчка і мястэчка на Беласточчыне, 16. папрок, 17. алкаголь. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 32 н-ра:**

**Гарызантальна:** адвага, Віфлеем, меніск, Няндома, накаўт, каскад, Украіна, касцяк, актрыса, катлет.

**Вертыкальна:** званок, сфінкс, Лесота, Амман, вянок, Гусеў, атрута, Асірыя, трапар, Адана, кацёл, дукат.

Кніжныя ўзнагароды высылаем: **Міхалу Байко** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх.

Ніва

**„Niwa"**

ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1997 r. upływa 5 grudnia 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 13 zł (130 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł (17 500 starych zł), a kwartalnie — 22,75 zł (227 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Пародыі

### Абяссілены экстаз

*Маю журботу, Нінка, прыгарні,*
*Схваці ў полымя экстазаў...*

*Ты, Нінка, чайнік пастаў,*
*Звары нам гарбаты,*
*Гузік прышый да кашулі...*

***Алесь Барскі***

У час экстазу гузікі ляцелі,
Не паспявала Нінка сабіраць.
Яна ізноў у полымя хацела —
Кахацца доўга, а пасля маўчаць.
Я ўжо знямогся — Нінка прыгарнула,
І закрычала вечнае: „Х–а–ч–у!"
Што я казаў — яна ужо не чула,
Пакінь, казаў, за гэта заплачу.
Ды Нінка — сексуальная вар'ятка,
Мяне душыла, гладзіла сабой...
Я абяссілеў, а яна гарбатку
Піла адна, чытаючы „Плейбой".

**Сяргей Чыгрын**



*Мал. Леаніда Разладава*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Паляўнічы вяртаецца з пустымі рукамі з няўдалага палявання. Побач сажалкі, па якой плаваюць качкі, сустракае селяніна:

— Гаспадар! Колькі возьмеце за адстрэл аднае качкі?

— Дасце па дзесяць злотаў...

Паляўнічы адстрэліў тры качкі і задаволены развітваецца:

— Дзякую вам! Можа яшчэ калі-небудзь з'ялюся, бо тут для мяне і паспяховае паляванне, і ўдалы інтарэс.

— Для мяне ён яшчэ лепшы, аднак больш ужо не прыязджайце.

— Чаму?

— Бо гэтыя качкі не былі мае.

* * *

Прыём у доме паляўнічага:

— Прашу ў вас прабачэння, дарагія госці, — звяртаецца гаспадыня, падаючы адбіўныя. — Мелі быць з сарны, але мой муж застрэліў карову...

* * *

Танцавальная вечарына:

— Ці ведаеш, якая розніца паміж танцам і ходам? — пытае яна.

— Не ведаю.

— Так я і думала.

* * *

— Гэта скандал! Мая дачка мусіла перарваць урок спеваў, бо ваш сабака страшэнна вые.

— Выбачайце, але яна пачала першая.

* * *

Паляўнічы-недарэка чарговы раз схібіў, прамахнуўшы два дзікі і аленя. У злосці клянецца перад сябрамі:

— Такое ганьбы не перажыву: застрэлюся з адчаю!

— А ці хаця пападзеш?

<u>З гісторыі беларускага нацыяналістычнага руху на Беласточчыне</u>

## На мой розум

Колькі ўжо месяцаў на старонках „Нівы" цягнецца слоўная траскатня, у якой усялякім брудам паліваецца Рэспубліка Беларусь і асабліва яе прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Наогул я сцярпець не магу палітычнай лаянкі ў нашым тыднёвіку і то па той простай прычыне, што ён („Ніва") у міжнароднай палітыцы нічога не значыць, не мае ніякай сілы ўздзеяння на яе. Гэта выглядае цалкам так, як у вядомай байцы І. Крылова „Слон и Моська", дзе сцвярджаецца, з насмешкай: „Моська, знать она сильна, коль лает на слона..." І вось калі б якісьці са „сланоў" — усходні ці заходні — захацеў, дык уміг гэтую брахлівую Моську („Ніву") раздушыў бы адным рухам пальца і засталася б пасля яе адна смярдзючая пляма. Таму, даражэнькія моські, брашыце ды меру знайце і на кій у панскай руцэ паглядайце!..

Гэта адно, а па-другое. Невялікае, калі цалкам ніякае наша, беларусаў Беласточчыны, права на крытыкаванне пануючага ладу і прэзідэнцкага праўлення ў Рэспубліцы Беларусь таксама па той прычыне, што мы таго ладу не ўстанаўлялі і Аляксандра Лукашэнку ў прэзідэнты не выбіралі. Так сказаць: „Не твоё, мамаша, дело, не твоя пи...да терпела", — як кажа прыказка. Мы, у Польшчы, маем сваіх прэзідэнтаў — і кіруючых, і пануючых: адзін у Намесніцкім палацы ў Варшаве, другі — на Палянках у Гданьску — і свой дзяржаўны лад („бардачок на калёсіках" і давайце на ім катацца), ва ўстанаўленні і ў выбары якіх такі ці іншы, але ж прымалі ўдзел і пра іх палітыку ды тут пануючы лад маем права разважаць у пахвальным ці знішчальным тоне — што ж, дэмакратыя, пане мой!.. Ды не забывайма, што калі раптам наша хваленая польская дэмакратыя „піз...ой накрыецца", як любіць мовіць адзін вядомы наш беларускі беластоцкі геній, дык паратунку ад польскага шавінізму ды пагромаў нас давядзецца нам шукаць не ў іншай краіне, як толькі ў Беларусі, у таго самога А. Лукашэнкі. Таму і не плюйма ў калодзеж, з якога прыйдзецца нам піць. А з усяго відаць, што гэта нас не абміне...

Некаторыя нашыя „тутэйшыя" (усё ж Я. Купала быў геніяльна прадбачлівы!) „правадыры" з шаленчым захапленнем абагатварылі то Л. Валэнсу, то Г. Сухоцкую, то А. Мільчаноўскага, а цяпер А. Квасьнеўскага — у кожным бачылі „męża (ці żonę) opatrznościowego" і як быццам авечкі за казлом паломнічалі ў іхняй свіце ў якасьці хлопцаўпаслугачоў, „przynieś, podaj, pozamiataj", гэта значыць: „падручных польскіх беларусаў" у Мінск. Праўда, некаторыя з іх хутка расчараваліся ў сваіх кумірах і бажышчах і сталі абзываць іх „хлеўнымі" лаянкамі: „хамуламі", „прайдзісветамі", „польскімі фашыстамі". І не дзіва; бо такое ўласціва кожнаму халую, асабліва тутэйшаму, беларускаму. Таму, што гэтыя „беларускія правадыры" нашы жыццёва важныя справы — як захаваць сваю тоеснасць, мову, культуру, традыцыю і выхаваць у пашане да ўсяго свайго роднага наступныя пакаленні — яны маюць у сваёй распасенай на панскіх польскіх пірагах задніцы. Гэтым „дзеячам" найважнейшае — то стаць слаўнымі, любымі сродкамі зрабіць кар'еру, прапіхнуцца да дзяржаўнага карыта і пажыць сабе ўволю, як кажуць у Мінску — „на халяву", гэта значыць — на дармшчыне. Дзеля таго ім абы знайсці задніцу — яны кожную лізаць будуць. Але і дзіціці вядома, што гэта не палітыка, а звычайнае рабскае, хамскае халуйства.

**Стары беларус**

P.S. Як апублікуеце, тады дам свой адрас і прозвішча. Не пабаюся...

**Ад Моські:** Спадар Слон, голас вашай трубы нам неяк добра вядомы і не надта хочацца верыць, што самі яе пакажаце. Не кожны дастойны і прыстойны, каб трапіць у абдымкі спадара Лукашэнкі. Верым, што вам гэта ўдасца. Вы, як былы супрацоўнік „Моські", зразумела, нікому, ніколі і нічога не лізалі, хіба што дазволілі вам пабываць у прысутнасці сяброў Здзіха Куроўскага, ці удзельнікаў „Круглага стала супрацоўнічаючых камітэтаў ПАРП і КПСС" („Моська", 11.12.1988). Але, як ведаеце, апрача высакародных адзінак, такіх як вы, „Стары беларус", выступаюць у прыродзе менш дасканалыя формы быту, як „моські", „хамскія халуі", (мова актывістаў экуменічнага руху), якія ўмеюць толькі „брахаць" на ўсё, што ім не падабаецца. Вы аднак маеце рацыю ў тым, што калі нехта прыкончыць „моську", ніхто гэтага не заўважыць. Мы пра гэта нават ведаем. Вам прыгадаем для сціплага прыкладу пра лёс паважанага спадара Тарашкевіча, які адкідаючы лёс турэмнага „моські", атруціўся пірагамі ў карыце Вялікага Іосіфа. Тым не менш вам „жадаем павадзін" у салонах Вялікага Аляксандра. Праз нейкі час і так усё трэба будзе там прыбіраць.

## Сардэчныя тайны

Мілае Сэрцайка! Спяшаюся падзяліцца сваёй радасцю: я сёння шчаслівы чалавек.

Уяві сабе, я — у ліцэі! А ведаеш, як мне было нецікава ў пачатковай школе?! Усе нейкія подлыя, кампанія абы-якая, хлопцаў як на лякарства.

У мінулым годзе я перажыла шок, калі мая найлепшая сяброўка адбіла ў мяне хлопца. Ён быў маім суседам, заўсёды разам мы вярталіся са школы, ды і ў школу ідучы, ён часта чакаў мяне. Пра ўсё расказваў мне, дзяліўся са мною. Пару разоў нават пацалаваў мяне. Мне было прыемна, хаця я не была ўпэўнена, кахаю я яго ці не. Неўзабаве, аднак, пераканалася, што кахаю.

Сімпатыя між намі не была таямніцай у нашым класе. Але я ніколі не думала, што падставіць мне нагу мая найлепшая сяброўка. Сказала дзяўчатам, што калі толькі захоча, дык будзе хадзіць з маім хлопцам. Перад ёю ніхто не ўстаіць!

Як сказала, так і зрабіла. Хадзіла, круцілася каля майго хлопца і ўрэшце... выставіла мяне на ўсеагульнае пасмешышча, прыйшоўшы з ім на нашу школьную дыскатэку.

Ад гэтага часу хлопец не праводзіў мяне і не чакаў, ідучы ў школу. Цяпер ён хадзіў на павадку за маёй сяброўкай. Вядома, яна ўжо ведала, што трэба рабіць, каб утрымаць хлопца пры сабе! Не саромелася, расказвала, што яны вычваралі ў пасцелі. Рабілі „пазіцыі", а найбольш хвалілася пазіцыяй нумар пяцьдзесят шэсць. Я дык спачатку нават не разумела, пра што яна гаворыць, але сяброўкі растлумачылі.

Часамі дык проста немагчыма было яе слухаць. Задзірала нос, быццам бы была найразумнейшай і найпрыгажэйшай дзеўкай свету. На ўсіх спаглядала звысока — яна ж лепшая! У глыбіні душы нават прасіла я Бога, каб яна зацяжарыла. Во тады дык паскакала б у пазіцыі нумар сто пяцьдзесят шэсць!

На жаль, яны сустракаліся надалей, і нічога такога не здарылася, чаго я зычыла ім. Я б у любы момант ізноў пачала хадзіць з гэтым хлопцам, каб толькі ён хацеў вярнуцца да мяне. Не важна, што гуляў з іншай! Цяпер толькі я пераканалася, як моцна кахала яго. Але ён прыклеіўся да яе як муха да смалы.

Многія дзяўчаты спачувалі мне, а некаторыя казалі, што я ўжо не маю на што ў яго разлічваць. Відаць, не змагла я яму даць тое, што дала сяброўка, а яна — ой, якая майстрыха ў гэтых справах! Я ўжо гатова была на ўсё, нават на палавыя зносіны, на якія, лічыла я, мне яшчэ зарана, а ён не прыходзіў. І з такімі сумнымі думкамі развіталася я з пачатковай школай.

Лета, канікулы крыху развеялі мае сумныя думкі. І вось цяпер я ў ліцэі, у новым асяроддзі. Сэрцайка, уяві сабе, што ў нашым класе ўсяго адна трэць дзяўчат. Адны хлопцы! Я ж у матэматычна-фізічным класе. Якая кампанія! Выбірай сабе хлопца — якога хочаш. Весела і ахвота апранацца штодзень інакш. Дальбог, цяпер я адчуваю сябе зусім па-другому. Быццам бы на свет нарадзілася. Ну, проста хочацца жыць. Раней я не думала, што ў ліцэі будзе так добра.

**Аня**

Аня! Ты ў эйфарыі выкліканай жыццёвай зменай. Не спяшайся, не кідайся занадта ў вір новага жыцця, бо ізноў расчаруешся.

Не ўсе подлыя ў пачатковай школе і не ўсе анёлы ў ліцэі. Табе падлажыла свінню якраз сяброўка ў пачатковай, а я ведаю такіх сябровак больш. Былі значна старэйшыя.

Людзі без гонару сустракаюцца мо не на кожным кроку, але даволі часта. А сярод дзяўчат тое, што зрабіла твая сяброўка, нават не лічыцца нічым страшным. Кожная змагаецца, як можа, за хлопца. Навучышся і ты!

І не абавязкова на гэта ёсць адзін-адзіны спосаб, пра які пішаш ты. Часамі такая „лёгкасць" ва ўспрыманні жыцця дае зусім супрацьлеглы вынік.

**Сэрцайка**